


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

9 ЛІСТАПАДА 2001г. № 45/4127 КОШТ 136 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ У 2002 ГОДЗЕ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на шэсць — 6600 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры месяцы — 7500 рублёў, на шэсць месяцаў — 15000 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

***Ападае лісцё, ападае...***

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

ЮБІЛЕІ

# Магутны ўладар...

## ВІКТАРУ РОЎДУ СПАЎНЯЕЦЦА 80

Лістапад — час традыцыйных музычных фестываляў. Час прэм'ер. І юбілеяў. Рамантычны, містычны для музычнага жыцця, час... Гэтай рамантычнай і загадкавай парой спраўляе дзень свайго нараджэння знакаміты чалавек. Таксама загадкавы, як усе творчыя асобы. Нязменна бадзёры і па-маладому неўтаймоўны. А тым не менш, яму, народнаму артысту СССР прафесару Віктару Уладзіміравічу Роўду, спаўняецца 80!

Прыгожая, нават звонку круглая дата значыцца на каляндарным лістку за 10 лістапада. Так што віншаваць нашага слыннага дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, педагога, строгага старшыню і чынніка розных конкурсных журы, можна будзе толькі заўтра. І самыя блізкія людзі, і калегі, і шматлікія вучні, і прадстаўнікі грамадскасці, і асобы афіцыйныя маюць магчымасць павітаць юбіляра яшчэ і ў асабліва ўрачыстай абстаноўцы. Таму што арганізатары сёлетняга Міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень" запланавалі на 25 лістапада творчы вечар Віктара Роўды.

Бенефіс маэстра будзе далёкі ад руцінных стандартаў юбілейных цырымоній. Імпрэза, прызначаная на 16.00, уключае ў сябе не толькі віншавальна-шанавальныя ўрачыстасці, але і свята дзіцячай харавой творчасці, што сталася апошнім часам шчырым клопатам майстра.

Пра В. Роўду і сказана, і напісана ўжо багата. Але заўсёды ёсць што дадаць. Жывая легенда і значная эпоха ў развіцці беларускага харавога мастацтва, музычнага мастацтва ў цэлым, — Віктар Уладзіміравіч надзвычай энергічны, дзейсны, ініцыятыўны, і, як падаецца, ніколі не задаволены дасягнутым, зямны чалавек. Яго ўсеахопная энергія распаўсюджваецца сёння і на знаны Акадэмічны хор Белтэлерадыё, які пад шматгадовым кіраўніцтвам В. Роўды стварыў сапраўды залаты запас харавой музыкі ў айчыннай фанатэцы. І на малады, свежы, непераможны на міжнароднай конкурснай арэне, студэнцкі хор, "укамплектаваны" гадаванцамі дырыжорска-харавога аддзялення Беларускай акадэміі музыкі. І на ўжо традыцыйныя для канцэртнага жыцця сталіцы святы дзіцячых харавых калектываў. І на "судзейскі чын" падчас Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". І...



І нездарма выгукнуў шчыры меламан, упершыню пабачыўшы маэстра за сімвалічным дырыжорскім пультам перад агромністым і стракатым зводным хорам: "Магутны Роўда! Уладарны Роўда..."

**С. БЕРАСЦЕНЬ**





*На здымках: з хорам Акадэміі музыкі; з народнымі артыстамі СССР Саулюсам Сандэцкісам ды Уладзімірам Мініным (1997 г.); з Генадзем Цітовічам (1976 г.)*

*Фота А. МАЦЮША і з архіва рэдакцыі*

# "Адрынуты" ў Мінску, вярнуўся з трыумфам

Ужо, відаць, і не дазнаешся, чаму выпускніка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, уладальніка прыгожага, па-опернаму магутнага драматычнага барытона; чалавека маладога, яркага знешне, артыстычнага, захопленага музыкай і чулага да яе, — чаму Мікалая Майсеенку не прынялі ў наш тэатр тады ж? Тады, у 72-м, ён вярнуўся ў родны Гомель — выкладчыкам вакалу ў музычнай вучэльні сваёй alma mater.

Праз два гады быў ужо ў далёкім Свярдлоўску, дзе пачалася яго паспяховая праца салістам знанага тэатра оперы і балета. Настолькі паспяховая, што неўзабаве наш зямляк быў ганараваны званнем заслужанага артыста Расіі.

У росквіце творчых сіл, у зеніце артыстычнай кар'еры ён прыехаў у Мінск. І з таго часу, з 1981-га, самааддана служыць Мастацтву на сцэне Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі, а таксама на канцэртных пляцоўках, дзе выяўляе тонкае адчуванне стылю камерных спеваў.

Мікалаю Майсеенку днямі споўнілася 60, і ў тэатры ён паранейшаму на вядучых ролях. Рэпертуар назапашаны багаты: князь Ігар і Рыгалета, Грязной і Ліндорф, Стэньё ў пракоф'еўскай "Маддалене" і Міхал у "Новай зямлі" Ю. Семянякі, значныя партыі ў "Князі Наваградскім" А. Бандарэнкі, "Тосцы" Д. Пучыні, практычна ва ўсіх прэм'ерах апошніх сезонаў — "Набука", "Турандот", "Атэла"...

Яго ведае публіка, яго паважаюць калегі (што, пагадзіцеся, — асабліва радуе). Паважаюць за прафесіяналізм, чуласць, зычлівасць да партнёраў па сцэне, за надзвычайную працавітасць, адказнасць перад мастацтвам. За чалавечую прыстойнасць, без якой жыццё ў тэатральным свеце было б яшчэ больш складанае, чым ёсць...

**С. ВЕТКА**



*На здымку: Мікалай Майсеенка ў оперы "Князь Наваградскі".*

АНОНС

# Віды на музычны ўраджай

Сапраўдныя меламаны, канечне, памятаюць: лістапад — час Міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень". Памятаюць і ўжо цікавяцца раскладам імпрэзаў, хаця жыццё вучыць, што змены ў афішы — рэч рэальная і не надта рэдкая. Пацікавіліся і мы "відамі на ўраджай" музычнай восені, якая сёлета прадоўжыцца больш за традыцыйную дэкаду, бо пачнецца ўжо 16-га і завершыцца ў апошні лістападаўскі вечар.

Як заўсёды, фэст пройдзе па ўсёй краіне. Ды асабліва "ўраджайна" будзе ў сталіцы, і мінчукам давядзецца выбіраць паміж як мінімум двума канцэртамі, замоўленымі на адзін і той жа вечар.

Балазе, выбіраць ёсць з чаго. Вялікую праграму з Акадэмічным сімфанічным аркестрам рыхтуе да адкрыцця "Восені" маэстра М. Казінец. Мастацкі кіраўнік гэтага калектыву А. Анісімаў пры садзейнічанні асацыяцыі "Transperformance" (Нідэрланды) правядзе вечар нідэрландскай музыкі з удзелам кампазітара Т. Лувендзі ды ансамбля ўдарных інструментаў "Percussion Duo". Выступленне Мінскага дзяржаўнага духавога аркестра мае адбыцца пад кіраўніцтвам беларускага дырыжора В. Міхновіча ды яго англійскага калегі М. Хартфілда. З Варшавы завітае маладзёжны сімфанічны аркестр "Jeunesses Musicales" з дырыжорам Л. Баровічам...

На афішы — канцэрты з удзелам знакамітага расійскага піяніста М. Пятрова, маскоўскага Дзяржаўнага квартэта імя А. Барадзіна, беларускага Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава. Акадэмічны народны хор Беларусі на чале з М. Дрынеўскім прапануе прэм'еру праграмы "Глыбінныя галасы зямлі беларускай". Сюрпрызамі ды экспромтамі будуць поўніцца творчыя вечарыны юбіляраў — выдатных дзеячаў айчыннага мастацтва Я. Гладкова ды В. Роўды...

А яшчэ падчас "Восені" плануюцца два міжнародныя міні-фестывалі: фартэпіянных дуэтаў і сучаснай камернай музыкі.

Сачыце за фестывальным надвор'ем і збірайце ўраджай высокіх эмоцый!

**С. Б.**

АБСЯГІ

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## За мільён наведвальнікаў

Вядомаму не толькі ў вобласці, але і ў рэспубліцы Крычаўскаму краязнаўчаму музею споўнілася сорак гадоў. Заснаваў яго краязнаўца Міхаіл Мельнікаў. Большую частку свайго жыцця прысвяціў ён збору экспанатаў і дакументаў для музейных экспазіцый. Вялікую падтрымку пры стварэнні музея аказалі Міхаілу Фёдаравічу пісьменнікі Канстанцін Сіманаў, Сяргей Смірноў, Іван Шамякін. Зараз на экскурсію ў Крычаў прыязджаюць госці не толькі з Магілёўшчыны, але й з Расіі, Польшчы, Балгарыі, Германіі, Бельгіі... За сорак гадоў у музеі пабывала больш за мільён наведвальнікаў.

На жаль, Міхаіл Мельнікаў пайшоў ужо з жыцця, але музеем зараз кіруе ягоная дачка — Наталля Марозава. Гэтымі днямі тут праходзіць юбілейная выстава, прысвечаная музею і яго заснавальніку.

## Кераміка і жывапіс

У Горках адбылася першая персанальная выстава кераміста Леаніда Аўхімкава, які нарадзіўся на Шклоўшчыне, а зараз жыве ў вёсцы Аўсянка Горацкага раёна. Аўхімкаў — самадзейны майстра, вучань вядомага мастака Сяргея Квача. На выставе прадстаўлены керамічныя вырабы і жывапіс.

## Электронная старонка фестывалю

З 1 кастрычніка ў сетцы Інтэрнэт па адрасе www.shlyager.com адкрыўся афіцыйны сайт міжнароднага музычнага фестывалю "Залаты шлягер". Адкрыццё сайта абумоўлена тым, што фестываль збірае гасцей і ўдзельнікаў з усяго свету. Сайт распрацавалі спецыялісты магілёўскай дызайн-студыі "Alter-Web". На электроннай старонцы — уся інфармацыя аб музычным форуме. Дарэчы, сёлета з дапамогай Інтэрнэта ўсе жадаючыя мелі магчымасць паўздзейнічаць на рашэнне журы ў выбары лепшага маладога выканаўцы фестывалю "Залаты шлягер".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

БРЭСТЧЫНА...

## Набыткі і перспектывы

За тры апошнія гады абласная арганізацыя Саюза мастакоў павялічылася на 10 чалавек — жывапісцаў, графікаў, скульптараў. Летась было ўтворана маладзёжнае аб'яднанне. Колькаснаму росту спадарожнічала плённая творчая праца. Пра гэта гаварыў на справаздачна-выбарчым сходзе старшыня арганізацыі Міхаіл Канькоў. Ён нагадаў пра рэгулярныя калектыўныя і персанальныя выставы, пра карцінныя галерэі, адкрытыя ў Астрамечаве Брэсцкага і Заказеллі Драгічынскага раёнаў, пра пленэры ў Польшчы, Германіі і, вядома ж, на Брэстчыне. Мастакі адчувалі падтрымку гарадскіх і абласных уладаў: зусім знята арэндная плата за выставачную залу, што дало магчымасць зрабіць уваход на кожную выставу свабодным; зніжана да мінімуму плата за творчыя майстэрні. І перспектывы ў мастакоўскай сябрыны добрыя. Ужо ў наступным годзе мяркуецца адкрыць у Брэсце дом мастака, перавыдаць альбом-каталог "Мастакі Брэстчыны". Пераважнай большасцю галасоў сход зноў абраў старшынёй арганізацыі М. Канькова.

## І вучыліся, і дзяліліся

Па запрашэнні абласнога ўпраўлення адукацыі на тыднёвых курсах удасканалення педагагічных ведаў і навыкаў пабывала група настаўнікаў беларускай мовы і гісторыі з Падляшша. Польскіх гасцей цёпла прынялі ў Інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, у школах Брэста, Іванаўскага і Драгічынскага раёнаў. Для іх наладжваліся не толькі паказальныя ўрокі, а і патрыятычныя імпрэзы, на адной з якіх, між іншым, прагучаў гімн "Магутны Божа". Не менш захапляльнымі былі экскурсіі па гістарычных мясцінах Берасцейшчыны, наведванні музеяў, у тым ліку славутага музея ў Моталі. Падчас падарожжа дэлегацыяй кіравала супрацоўніца Гайнаўскага беларускага музея Наталля Герасімюк. А ролю экскурсавода выканаў гісторык-педагог з Жабінкі Анатоль Бензярук.

## Сустрэча ў бібліятэцы

Семінар работнікаў дзіцячых бібліятэк Пружаншчыны закончыўся сустрэчай з пісьменнікамі Уладзімірам Ягоўдзікам, Міколам Купрэевым, Міколам Папекам і Алесем Каско. Ажыўленая гаворка ішла найперш пра дзіцячыя кнігі і часопісы. Пра часопіс "Бярозка" расказваў юным чытачам ягоны галоўны рэдактар У. Ягоўдзік. Гучалі вершы, казкі, пацешкі, загадкі. У заключэнні адбылася прэзентацыя кніжкі "Чыстага ўсё нячыстае байца", толькі што выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва". У ёй — арыгінальныя народныя казкі, яшчэ малавядомыя чытачам, бо запісаны яны Алесем Каско на працягу апошняга дзесяцігоддзя.

## Спявае "Каларыт"

Справаздачным канцэртам адзначыў пяць гадоў сваёй дзейнасці народны мужчынскі ансамбль "Каларыт" Жабінкаўскага Дома культуры. Ведаюць калектыў не толькі тут, але і ў многіх гарадах Брэстчыны. Мінччыны і Беласточчыны. Ансамбль радуе слухачоў зладжанасцю, артыстычнасцю, багатым рэпертуарам, аснову якога складаюць беларускія эстрадныя і народныя песні. Кіруе "Каларытам" Мікалай Зіноўеў — віртуозны баяніст, здольны спявак і нястомны арганізатар.

**Сымон АКСЕНІН**

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Музыка кіно

Сімфанічны аркестр Гомеля (мастацкі кіраўнік і дырыжор Валянцін Краўцоў) падрыхтаваў новую канцэртную праграму "Музыка кіно" і выступіў з ёю перад землякамі. Прагучалі мелодыі з папулярных айчынных фільмаў.

## Папаўняюцца фонды

Супрацоўнікі абласнога краязнаўчага музея вярнуліся нядаўна з творчай вандроўкі. Яны прывезлі з Петрыкаўскага і Калінкавіцкага раёнаў нацыянальныя жаночыя строі, якім больш за сто гадоў. Хутка новыя экспанаты будуць выстаўлены ў музеі.

## Першыя гастролі

У Гомельскім дзяржаўным цырку ідзе суперпрадстаўленне "Карнавал звяроў" вядомага Вялікага Маскоўскага цырка. У праграме — самыя розныя атракцыёны. Гэта першыя гастролі маскоўскіх цыркавых артыстаў у Гомелі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## Восеньскія сустрэчы

**Інакш як плённымі не назавеш тыя літаратурныя сустрэчы і мерапрыемствы, якія адбыліся сёлетнім вераснем— кастрычнікам на тэрыторыі Маладзечаншчыны і Смаргоншчыны. Так 1 верасня ў Радашковіцкай сярэдняй школе было шырока адзначана Свята беларускага пісьменства і друку. Арганізатарамі яго правядзення сталі супрацоўнікі мясцовай гарпасялковай бібліятэкі пры падтрымцы аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама. Спецыяльна для старшакласнікаў была падрыхтавана літаратурна-музычная кампазіцыя "Кожны край мае тых, што апяваюць...", галоўнымі героямі якой сталі ўраджэнцы Радашковічаў і навакольных вёсак, якія праславілі свой край і сябе бескампрамісным служэннем Бацькаўшчыне і яе народу. Пастаноўка была цёпла сустрэта школьнікамі. А затым перад прысутнымі выступілі шаноўныя госці: першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "Літаратура і мастацтва" вядомы паэт Віктар Шніп і супрацоўнік Маладзечанскай раённай цэнтральнай бібліятэкі, краязнаўца Міхась Казлоўскі. Госці чыталі свае творы, расказвалі пра слаўнае мінулае роднага краю, адказвалі на пытанні. Не абышлася сустрэча і без жаданых аўтографаў, якія атрымалі тыя, хто меў папярэдне падрыхтаваныя кнігі Віктара Шніпа.**

**Добрым працягам сталай верасьнёўскай традыцыі стала святкаванне дзён беларускага пісьменства і друку, якія прайшлі ў Доме культуры г. Смаргоня, а таксама ў Мясоцкай базавай і Аляхновіцкай сярэдняй школах на Маладзечаншчыне. Асабліва ўрачыста, светла і арганізавана-прадумана прайшло свята ў Смаргоні. Зала гарадскога Дома культуры, якая змяшчае некалькі соцень чалавек была перапоўнена. Старшакласнікі, мясцовая інтэлігенцыя, проста неабыякавыя да лёсу роднай культуры людзі вельмі прыязна сустрэлі творчую сябрыну Шніпа і Казлоўскага, а таксама паэтку Людмілу Рублеўскую. Чытанне вершаў арганічна перапляталася з добрай музыкай, цёплай і добразычлівай атмасферай, якая панавала ў зале. І ўвогуле трэба прызнаць, што свята атрымалася толькі таму, што ўзорны прыклад творчых адносін да працы прадэманстравалі работнікі Смаргонскай раённай цэнтральнай бібліятэкі. Усё было прадумана да дробязяў: і выдатная мастацкая частка вечарыны, і арганізацыйныя пытанні. Пасля такіх сустрэч застаецца на душы светлае пачуццё радасці і шчырая чалавечая ўдзячнасць!**

**І яшчэ. Пасля доўгіх летніх вакацый працягнуў сваю дзейнасць універсітэт культуры, які працуе пры аддзеле культуры Маладзечанскага райвыканкама. Ягонай галоўнай мэтай з'яўляецца павышэнне інтэлектуальнага патэнцыялу культработнікаў раёна, знаёмства з цікавымі людзьмі, сустрэча з выдатнымі прадстаўнікамі беларускай культуры. І як заўсёды, па добрай старой традыцыі на ягонае чарговае пасяджэнне, якое адбылося 25 кастрычніка г. г., былі запрошаны літаратары з Мінска. Гэтым разам імі сталі: галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" паэт Алесь Пісьмянкоў і ягоны намеснік — паэт і няўрымслівы вандроўнік "па родны ваколіцах" Віктар Шніп. Адбылася шчырая і зацікаўленая гаворка паміж вядомымі пісьменнікамі і культработнікамі раёна. Літаратары расказвалі пра свой жыццёвы і творчы шлях, чыталі вершы, дзяліліся планамі на будучыню, а потым адказвалі на шматлікія пытанні прысутных і раздавалі аўтографы.**

**Наталля ПЛОТАВА**

## Першы поспех



**Актрыса Гомельскага драматычнага тэатра Віялета Сарвірава была адзначана дыпломам ІІ Рэспубліканскага фестывалю творчай тэатральнай моладзі, што адбыўся ў Гародні. Зараз у тэатры рыхтуецца прэм'ера спектакля па п'есе А. Астроўскага "Праўда добра, а шчасце лепей", дзе Віялета выканае ролю Паліксены.**

# Мастака творыць час...

***Самабытную, арыгінальную творчасць нараджае сапраўдны талент. І ў гэтай сувязі ў даследчыкаў літаратуры заўсёды ўзнікаюць заканамерныя пытанні: што такое творчая індывідуальнасць, дзе вытокі таленту? Свой погляд на гэтыя праблемныя пытанні ў Серафіма Андраюка — літаратурнага крытыка, аўтара кніг і артыкулаў пра творчасць беларускіх пісьменнікаў.***

**— Серафім Антонавіч, на вашу думку, калі можна гаварыць пра адметнасць творчасці, пра сапраўдны талент?**

— Талент нараджае прырода, мастака творыць час, жыццё. Творчасць мастака слова заўсёды індывідуальна непаўторнае ўвасабленне грамадска-сацыяльных і народжаных імі духоўна-эстэтычных агульных праяў, тэндэнцый, заканамернасцей. Я мяркую, што без адчування, усведамлення аб'ектыўнай асновы і аб'ектыўных умоў развіцця, грунтавання таленту вытлумачыць і зразумець творчасць значнага пісьменніка, па сутнасці, немагчыма. Думаецца, ідэйна-мастацкая адметнасць творчасці заўсёды выяўляецца жыццём, вызначаецца з улікам мастацкага вопыту, найперш нацыянальнага, набытага ў мінулым, ацэньваецца ў суаднесенасці з эстэтычнымі з'явамі і тэндэнцыямі сучаснасці. Гэтыя меркаванні маюць асаблівы сэнс у дачыненні да творчасці пісьменнікаў, чыё дзяцінства прыпала на гераічна-трагічныя ваенныя і пасляваенныя гады, а пачатак творчасці адбыўся на хвалі грамадскага ўздыму сярэдзіны — другой паловы 50-х гадоў. Жыццёвы і творчы лёс гэтага пакалення асабліва адметны, непадобны да лёсу іншых пакаленняў пісьменнікаў. Іван Пташнікаў — адзін з асабліва яркіх прадстаўнікоў гэтага пакалення. Яго проза — гэта сёння адметная і значная з'ява нацыянальнай літаратуры, і калі разглядаць шырэй — нацыянальнай культуры. Яна дастаткова выразна акрэслілася, раскрылася і глыбока выявіла свае ідэйна-мастацкія асаблівасці, жыццёвыя вытокі, сцвердзіла сваю мастацкую арганічнасць. Талент пісьменніка рэалізаваўся, увасобіўся ў рэальных мастацкіх набытках: "Алімпіяда", "Тартак", "Мсціжы", "Найдорф" і іншыя. Кожны з гэтых твораў — не толькі вызначальная вяха на творчым шляху пісьменніка, але і прыкметная з'ява для беларускай літаратуры. Усе ж разам гэтыя буйныя творы, як і напісаныя раней раман "Чакай у далёкіх Грынях", аповесць "Лонва", апавяданні "Алені", "Алёшка", "Бежанцы", "Сцяпан Жыхар са Сцешыц", а таксама апавяданні пазнейшых ("Эфка", "Львы", "Арчыбал") і апошніх ("Француж анкі", "Тры пуды жыта", "Пагоня") гадоў, ствараюць гэтую самабытную з'яву, назва якой — проза Івана Пташнікава. Заўважаецца мастакоўская паслядоўнасць, мэтанакіраванасць творчай дзейнасці пісьменніка. Пачынаючы з аповесці "Іллюк Чачык", якая з'явілася ў друку ў 1957 годзе, і канчаючы апавяданнямі апошніх гадоў, пісьменнік нязменна строга прытрымліваецца ў сваёй творчасці прынцыпу вернасці жыццёвай праўдзе. Смела можна сцвярджаць: ніхто не скажа, што творы І. Пташнікава прыдуманыя, нежыццёвыя.Чытаючы апавяданні, аповесці, раманы, адчуваеш, бачыш глыбокую жыццёвую, а не толькі падзейную, фактычную аснову. А жыццёвая аснова твораў мае рысы выключна асабістага характару, паколькі піша І. Пташнікаў пра сваю малую радзіму, пра тое, што знаходзіцца ў межах ягонага вопыту, а пры адлюстраванні жыцця імкнецца да масімальнай паўнаты і ўсебаковасці, багатай насычанасці падрабязнасцямі, дэталямі: бытавымі, пейзажнымі, псіхалагічнымі.

**— У размове мы закранулі паняцце мікрасвету пісьменніка, і якраз у Івана Пташнікава гэта родныя мясціны, Лагойшчына. Ён, як некалі Фолкнер, стварае той свет, дзе жывуць яго героі. Такое назіраецца, дарэчы, і ў прозе В. Адамчыка, Кузьмы Чорнага. На вашу думку, гэта нейкая тэндэнцыя ці адметнасць светапогляду пісьменніка, свядомы выбар творчага накірунку?**

— Я мяркую, што тут нейкае шчаслівае супадзенне індывідуальных асаблівасцяў і запатрабаванняў часу. І. Пташнікаў распачаў пісаць дзесьці ў другой палове 50-х гадоў, а лепшыя яго творы з'явіліся ў пачатку 60-х. Гэта быў час, калі літаратура змагла і пачала гаварыць праўду, сталі даступнымі для пісьменнікаў творы замежных аўтараў. Для І. Пташнікава якраз уласціва своеасаблівае, фолкнераўскае бачанне свету, а таксама адчуваюцца і ўрокі Кузьмы Чорнага: "Чалавек — гэта цэлы свет". І. Пташнікаў імкнецца адлюстраваць гэты мікрасвет ягонай Лагойшчыны, дзе ён жыў, дзе прайшло яго дзяцінства, такое балючае, цяжкае — ваеннае і пасляваеннае. Для яго тут хапае матэрыялу на ўсе яго творы. Калі звяртацца да пытання, чым абумоўлена творчасць пісьменніка, то мне здаецца, што гэта ўспаміны дзяцінства, прырода. Там жывуць усе яго героі. І, канечне, на творчасць пісьменніка моцна паўплывала вайна. І не толькі на І. Пташнікава, але і на ўсё тое пакаленне — так званае філалагічнае, — якое прыйшло ў літаратуру ў 50—60-х.

Потым была дакументальная кніга А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка "Я з вогненнай вёскі", іншыя творы, але найперш пра боль спаленых часта разам з жыхарамі вёсак расказалі тыя, хто бачыў гэта дзіцячымі вачыма.

**— Вы вельмі падрабязна разглядаеце ўплыў на пісьменніка і яго творчасць ваенных падзей у вашай кнізе "Чалавек на зямлі".**

— Вайна не абмінула ніводнага пісьменніка таго пакалення, і гэта ў многім вызначыла не толькі тэмы іх кніг, але і паўплывала на характар, светабачанне саміх пісьменнікаў: Б. Сачанкі, М. Стральцова, І. Чыгрынава, В. Адамчыка. Кожны сказаў сваё слова, таму што такое не забываецца. Героі іх твораў нясуць боль вайны ў сэрцы. Стан іх душы вельмі няпросты, раскрыццё яго патрабуе асаблівага майстэрства, а галоўнае — суперажывання, дарэчы, многа дае для раскрыцця характараў у творчасці І. Пташнікава пейзаж, прырода. Але гэта не проста апісанні пейзажу, гэта — асабліва ў апошніх творах — глыбока прадуманае адлюстраванне праз з'явы навакольнага асяроддзя душэўнага стану, характару героя, часам настраёвасць пейзажнай карціны прадвызначае сюжэт.

**— Такім чынам, мы можам весці размову пра псіхалагічны пейзаж?**

— Безумоўна, у І. Пташнікава пейзаж, характары і падзеі вельмі цесна звязаны. І адлюстраванне прыроды ў І. Пташнікава сваё, глыбіннае, гэта адна з асаблівасцей яго таленту, усёй яго творчасці. І. Пташнікаў, як справядліва заўважаюць многія, — проста выдатны пейзажыст і псіхолаг.

**— На прыкладзе творчасці І. Пташнікава можна акрэсліць некаторыя агульныя рысы, якія вызначаюць непаўторнасць, самабытнасць беларускай прозы яго літаратурнага пакалення?**

— Думаю, што вялікая ўдача кожнага пісьменніка — тэма, якую ён выбірае, тут важна, каб яна была сугучна яго душы. У І. Пташнікава якраз гэта ёсць: свет, дзе жывуць яго героі, — гэта яго свет, добра вядомы, з якім знітавана душа празаіка; героі І. Пташнікава — прататыпы аднавяскоўцаў; пейзаж таксама не прыдуманы — мясціны роднай Лагойшчыны. І ўсё гэта аб'ядноўвае любоў пісьменніка да сваёй зямлі, да людзей. Апошняе асабліва важна. Уплыў часу, вайна, "вясковы" накірунак літаратуры — сапраўды, агульнае, што вызначае прозу пташнікаўскага пакалення. Аднак кожны з гэтых пісьменнікаў здолеў сказаць сваё, адметнае і непаўторнае, і сказаць па-свойму, кожны з іх мае сваю адметную мастацкую манеру, свой стыль.

**— Звяртаючыся зноў жа да творчасці І. Пташнікава, хочацца адзначыць яго новыя апавяданні. Што змянілася ў творчай манеры пісьменніка, чым адметныя яго новыя творы?**

— Дзесьці пачынаючы з 1996 года, штогод з'яўляецца новае апавяданне І. Пташнікава. У сённяшняй літаратуры, як мне ўяўляецца, яны складаюць адзін з самых значных набыткаў. Тут адчуваецца той жа пісьменнік, той жа Пташнікаў, але і ў чымсьці іншы — які робіць і для сябе, і для літаратуры нейкія новыя крокі. Для сябе, у прыватнасці, ён асвойвае новыя тэмы, якія раней не закранаў. Да таго ж, вырас мастацкі ўзровень, а гэта патрабуе большай філасафічнасці, заглыбленасці, што адчуваецца ў апавяданнях "Тры пуды жыта", "Пагоня". Думаю, што творчасць І. Пташнікава — гэта адзін з прыкладаў глыбокага, адметнага і самабытнага таленту.

**Гутарку вяла Маргарыта ПРОХАР**

ВАРУНКІ

# Фэст адмянілі. Ніхто не пацярпеў?

18 кастрычніка, вечар. Абвешчана ўрачыстая імпрэза: адкрыцці ІІІ Нацыянальнага фестывалю эстрадных аркестраў, да якога прымеркавана прэм'ера Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі "У свеце музыкі — "Бітлз" і "Песняры". На табло станцыі метро "Плошча Якуба Коласа" — 18.38. Да пачатку канцэрта яшчэ нямала часу, а людзі спяшаюцца, як пасля трэцяга званка. Вынырнуўшы з падземкі, хтосьці пытае "лішні білецік", хтосьці шукае ў натоўпе ля філармоніі знаёмцаў. А натоўп надзіва шчыльны: на прыступкі — не ўзбіцца, у вестыбюль, праз які працягнуўся вялізны "хвост" да касы, — не ўткнуцца. Ды толькі твары ў людзей — ніякаватыя...

Высвятляецца, што канцэрт адмянілі з прычыны "аварыйнага стану залы". Знаходзіцца сведка здарэння: шырока, нібы рыбак-хвалько, развёўшы рукі ў бакі, паказвае "кавалак, які адваліўся ад балкона". Чарга здаць білеты расце... 19.05: у вестыбюль праціскваюцца новыя людзі, ва ўзрушаным прэм'ерным настроі, з раскошна афармленымі букетамі, спадзеючыся, што на імпрэзу не спозняцца. І маюць рацыю...

Што ж адбылося насамрэч? Са слоў прадстаўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, прыгоды пачаліся ўранку, калі музыканты толькі-толькі размясцілі на сцэне філармоніі свой рыштунак. Нібыта без дай прычыны ад столі адваліўся кавалак тынкоўкі і грукнуўся на сцэну. На шчасце, у гэтую хвіліну людзей побач не было, інакш здарэнне магло скончыцца трагедыяй. Неўзабаве пад столлю нацягнулі ахоўную сетку і палічылі мажлівым канцэрт не адмяняць. Але хтосьці вырашыў дзеля большай упэўненасці паспрабаваць скалаціць са столі тое, што не адвалілася, але нібыта магло — следам за першым кавалкам. Тынк даў расколіну, і на сцэнічную падлогу абрынуўся вялізны цяжкі кавалак.

Уяўляеце наступствы такога здарэння падчас канцэрта ці нават рэпетыцыі?!

Гэта была не толькі адмена канцэрта "з-за тэхнічных прычын". Змарнаванаю аказалася праца па падрыхтоўцы ўсяго фестывалю. А гэта, нагадаю, два вечары з прэм'ернай імпрэзай Дзяржаўнага канцэртнага аркестра і яшчэ два — з удзелам каля паўтара дзесятка эстрадных калектываў, прычым палова іх прадстаўляла розныя гарады Беларусі. Праблема за вечар, ды яшчэ на 3-4 дні, знайсці ў Мінску адэкватную замену пацярпелай філарманічнай зале, аказалася невырашальнай. Каса мусіла вяртаць грошы за "пагарэлыя" білеты. Філарманічныя работнікі турбаваліся, ці не адаб'ецца гэта на справах бухгалтэрыі, а значыць — на іх сціплых зарплатах. Пра маральны і матэрыяльны ўрон арганізатараў ды ўдзельнікаў адмененага Нацыянальнага фестывалю эстрадных аркестраў балюча думаць. Між іншым, пра форс-мажорныя акалічнасці паспелі паведаміць не ўсім іншагароднім калектывам: гродзенскія музыканты ўжо былі ў дарозе, і, прыехаўшы ў Мінск, мусілі тут жа скіраваць свае колы дадому.

19 кастрычніка — іронія лёсу! — прэс-канферэнцыя з нагоды чарговай "Беларускай музычнай восені". Дырэктар філармоніі І. Андрэеў, зразумела, не мог абмінуць і "тэму дня", тым болей, што напярэдадні вечарам, у тэлевізійнай "Панараме", па гарачых слядах здарэння быў паказаны сенсацыйны рэпартаж М. Равуцкага, які, з пункту гледжання філарманічнай адміністрацыі, "перабольшыў".

Як жа выклаў факты сам дырэктар?

Паводле яго слоў, 18-га раніцай (9.20) адбылося надзвычайнае здарэнне: "Падчас мантажу канцэрта здарылася **частковае** абрушванне ляпніны столі **на ар'ерсцэну**. Ніхто не пацярпеў". Журналістам быў прадэманстраваны жахлівы "сувенір" — ці то цэментны, ці то бетонны кавалак плошчай з маленькі часопісны столік, таўшчынёй амаль 15 см: забойчая сіла! Цікаўныя патрапілі і "на экскурсію": углыбіні-вышыні над сцэнай, акурат дзе размяшчаюць падчас канцэрта арганны пульт або рытм-секцыю, на фоне пабелкі зеўрала шэрая "рана". Страшнавата...

Тым часам чакалі афіцыйных прадстаўнікоў спецкамісіі, якая разам з праекціроўшчыкамі залы мусілі ацаніць сітуацыю і вырашыць праблему далейшай эксплуатацыі галоўнай канцэртнай пляцоўкі краіны.

Пакуль жа кіраўніцтва філармоніі разважала пра нездавальняючыя ўмовы эксплуатацыі будынка: ён, між іншым, праектаваўся не як элітарная акустычная зала, а як клубнае памяшканне, на пачатку 60-х, адпаведна патрэбам дня, перапланаванае ў дом для беспрытульнай тады Беларускай дзяржаўнай філармоніі. 40 гадоў тут не было належнага рамонту. Штодзённая вібрацыя ад гучання музычных інструментаў, правядзенне лініі метро, — усё гэта неспрыяльна ўплывае на стан будынка.

Чамусьці дырэктар паспрабаваў частку праблемы "ўскласці на арган": маўляў, яго магутнае гранне скаланае ўсё навокал. Але ж арган ужо два гады... маўчыць! І дзеля справядлівасці трэба ўспомніць, што ў 1963 годзе, калі пасля ўстаноўкі і настройкі інструмента арганіст А. Янчанка распачаў тут першую рэпетыцыю, кавалкі тынку, што адкалоліся ад столі, пагнулі некалькі металічных труб. І выклікалі праекціроўшчыкаў залы, і "абмяркоўвалі сітуацыю". А майстар С. Чарняўскі выправіў пашкоджанні ды на ўсялякі выпадак, па ўласнай ініцыятыве, зрабіў над арганам другую, драўляную столь. І потым на працягу многіх гадоў раз-пораз чуў, як высока-высока стукаюць па дрэве кавалачкі нетрывалага тынку. Тады гэта нікога не насцярожвала. Сёння пра гэта і не ўспамінаюць. Ківаюць на арган, якому даўно патрэбна рэанімацыя...

Ніхто не вінаваты, ніхто не пацярпеў...

Што будзе далей?

Прэм'ера "У свеце музыкі — "Бітлз" і "Песняры", як і фестываль эстрадных аркестраў, фармальна не адмяняюцца, а нібыта пераносяцца. Магчыма, на час "Беларускай музычнай восені". Сама ж "Восень" пройдзе 16—30 лістапада.

І самая свежая інфармацыя, атрыманая па тэлефоне з прэс-цэнтра філармоніі. Беларуская акадэмія архітэктуры, Навукова-вытворчае унітарнае прадпрыемства "Стройконструкцыя" дае дазвол на часовую эксплуатацыю залы да 1.06.2002 г. — да пачатку капітальнага рамонту. "Пры ўмове прыладжвання ахоўнай сеткі на выпадак..."

Залу адкрыюць 9 лістапада. Сёння тут мае адбыцца канцэрт...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

# Людзі

***Марозны калядны вечар. Пастрэльваюць у грубцы асінавыя паленні, разгараюцца сінім полымем пакручаныя чачоткавыя бярэзіны. Як хораша глядзець на языкі агню, на ажурны пераліў полымя па падлозе, сценах. Маці ўжо ўправілася па гаспадарцы і стомлена месціцца перад адкрытымі дзверцамі грубкі палячыць цяплом застарэлыя хваробы. Мы з братам выпіваем "па апошняй" і адсоўваемся ад стала на "тылавыя пазіцыі". Самае пагаварыць за жыццё. Пачынае брат.***

## Паглядзі, чыя машына?

Калі пачаў развальвацца Савецкі Саюз, сталі закрывацца прадпрыемствы, многія страцілі працу і былі выкінуты ў стыхійны рынак і бізнес. Адзін мой добры знаёмы гэтаксама вымушаны быў усё пачынаць з нуля. Без сувязяў і грошай зрабіць бізнес у нашай краіне было немагчыма, і ён нейкім чынам дамовіўся паехаць на заробкі за мяжу. Умовы кантракту патрабавалі працаваць бязвыезна два гады. А ў яго ў вёсцы жыла старая хворая маці, без староннняй дапамогі ёй ужо не спраўіцца аніяк. Што рабіць? Тут без працы і грошай таксама не памочнік, а пакінуць старую адну не пакінеш. Пайшоў да суседа, просіць:

— Я на два гады ад'язджаю, прыглядзь маці. Праз два гады вярнуся, машыну табе за гэта прыганю.

— Добра, як не прыгледзець, суседзі ж... Едзь сабе спакойна.

Праз два гады сын вяртаецца з заробкаў. Двор у маці дагледжаны, агарод пасаджаны. Сусед, спраўджваючы абяцанне, апекаваўся трохі не лепш, чым за ўласнай маці.

Заходзіць сын да суседа, дастае з сумкі гасцінцы, дарагую закуску і выпіўку, частуе, дзякуе за клопаты. Выпілі, закусілі. Тады сын кажа:

— А цяпер паглядзі ў вакно, што бачыш?

— Ну, машыну бачу.

— А чыя машына?

— Ды адкуль я ведаю, у нас у вёсцы такіх няма.

— Твая гэта машына. Помніш, я абяцаў ад'язджаючы, — і дастае з кішэні дакументы.

— Вось глядзі, "Фалькcваген-пасат", уладальнік. Прозвішча чыё?.. Тваё.

— Ды што ты, навошта, хіба я з-за машыны? — пачаў нібы апраўдвацца сусед.

— Тым лепей, што не з-за машыны.

— Вось такія людзі бываюць, заключыў брат.

— А дай жа Бог ім здароўя, а табе і наперад з такімі знацца, — заварушылася каля грубкі маці. — А то мне другіх даводзілася бачыць.

І яна загаварыла.

## Не плачце, мама, нам і так смачна

У сорак чацвёртым вясною мы вярнуліся з бежанцаў. Вёска спалена, засталося дзве ці тры хаты. Жылі ў зямлянках. У нас жа застаўся хлеў. Раскоша, можна сказаць. Толькі есці не было амаль нічога. І вось тым часам праз вёску ехалі ваенныя. Легкавік завярнуў да нашага двара. Выйшаў афіцэр. Маёр па званні, ці, можа, нават палкоўнік. Гэта цяпер на легкавіках усякая гадасць ездзіць, а тады яны былі наперапік. І пытае дзеда Крысана:

— Хазяін! Са мной жонка цяжарная, радзіць павінна хутка. Ніяк нельга яе ў дарогу. Дазволь пакінуць у цябе.

Ну, а дзед жа вы знаеце які быў: з сябе здыме, а людзям аддасць. Узялі гэтую жанчыну, дзед месца лепшае для яе вызначыў. Усё, што лепшае з яды здаралася, — ёй аддавалі. І роды прынялі як належыць, і хлопчыка яе купацьдагляддаць баба Хадора як свайго памагала. А колькі дзед з лесу напіліў-пацягаў бярвенняў, каб разжыцца жменяй круп ці літрай малака! І добры-такі хлопчык рос, дзябёлы, як камёлак.

А ўвосень той чалавек заехаў за жонкай, і з ім яшчэ некалькі афіцэраў. Зайшлі, пачалі на стол збіраць хлеб, кансервы нейкія, сала, торба бульбы, гарэлка. Запатрабавалі ў бабы вялікі чыгун, наварылі бульбы, заскварылі салам з цыбуляй. Селі, п'юць, ядуць. Ні дзеда, ні бабу не запрасілі. А мы, дзеці, сядзім на печы, і з-за коміна ў чатыры пары вачэй, як зачараваныя, пільнуем. Які пах смачны быў! Ніколі і нічога з той пары мне так смачна не пахла. "Хай бы ж хоць лыжку тае бульбы далі", — ціхенька шэпчамся на печы. А папрасіць не смеем. Дзед строгі быў вельмі, сам нізашто ні ў кога не папросіць і нам забараняў. Аркадзя, ён жа самы меншы быў, не вытрымаў, яго ташніць пачало, дык на вуліцу выскачыў, каб не бачыць. А мы дасядзелі да канца.

Папілі яны, паелі, забралі сваю маладзіцу ды моўчкі і паехалі. Ні хоць бы табе "спасіба" сказалі дзеду з бабай. А мы скаціліся з печы ды да таго чыгунка, думаем, можа, хаця бульбінка дзе на сценцы прысохлая засталася. Не, чыста выскраблі. А пах ад чыгунка ўсё роўна ідзе такі смачны. Дык мы давай яго нюхаць. Баба ўбачыла, заплакала, а мы супакойваем: "Не плачце, мама, вы нам у гэтым чыгуне штонебудзь зварыце, дык і то нам смачна будзе".

Во якія людзі бываюць. Ну няхай ён мужык, а яна ж жанчына!

Няўжо такое магло (і можа) быць? Ашаломленых аповедам, хачу нешта сказаць і не магу — спазм сціскае горла.

Маці ж, справіўшыся з узрушэннем ад толькі што перажытых успамінаў, працягвае.

## Па чым вашы яблыкі?

Саду добрага ў нас свайго не было. Хаця бацька ўвесь час і садзіў. Зямля ж ведаеце якая была, не радзіў сад. Дык мы заўсёды яблыкі куплялі ў Слаўгарадзе. Вось і той раз паехалі з бацькам на кірмаш. Не даехалі да кірмашу, а на горадзе сустракаецца нейкі дзядзька, знаёмы бацькаў аказаўся, павітаўся, пытаецца, куды едзем.

— Ды яблыкаў купіць, — гаворыць бацька.

— А навошта вам на кірмаш ехаць? Хадзем да мяне дамоў, я вам прадам.

— А па чым вашы яблыкі?

— Па сорак капеек.

Трэба сказаць, што сорак капеек тады каштавала самая лепшая адборная антонаўка. Таргавацца не сталі, паехалі прама ў двор да дзядзькі. Купілі яблыкі, я яшчэ звярнула ўвагу, як ён ашчадна ўзважваў, каб хаця яблык лішні не перакласці. Ну, купілі, едзем дамоў, а я ў бацькі і пытаюся: "А адкуль ты ведаеш гэтага чалавека?" Ён і расказвае.

"Да вайны наша хата з краю вёскі стаяла. А ў сорак першым, як прыйшлі немцы, непадалёк зрабілі канцлагер для ваеннапалонных. Па першым часе немцы дазвалялі перадаваць палонным ежу, і мы штодзень што-небудзь прыносілі. Нават можна было выкупіць ваеннапалоннага, калі ён быў тваім родзічам. І з усяго навакольля прыходзілі людзі сваіх шукаць, але калі хто спрабаваў уцякаць з лагера — немцы стралялі. На маіх вачах застрэлілі маладзенькага стрыжанага лейтэнанціка. Ён быў уцёк і схаваўся ў бульбу ў нашым гародзе, а адна сучка высачыла і прывяла немцаў. Ён і стрэліў з вінтоўкі прама ў галаву.

А некалькімі днямі пазней з лагера ўцёк салдат. Немцы ўбачылі, пагналіся, і салдат, хаваючыся, заскочыў да нас у хату. Маці мая адразу ўсё зразумела. Схапіла мяне — ды яму на калені. "Гэта бацька твой, гавары, што гэта твой бацька!" І ў той жа момант на парозе з'явіўся немец з аўтаматам. Мне ўжо адзінаццаць гадоў было, а тады дзеці панятлівыя былі. Абдымаю гэтага ўцекача, цалую. А маці падбегла да немца, тлумачыць: "Пан, пан, гэта мой гаспадар". Так яны і не кранулі гэтага салдата. Са Слаўгарада аказаўся. Праз два дні дамоў пайшоў, хаця маці і ўгаворвала пабыць колькі дзён. Гэта ж каб немцы праверылі, дзе твой гаспадар падзеўся, дык бы ўсіх пастралялі. Трайтаў яго прозвішча. З тых пор і знаем адзін аднаго".

— Дык чаму ж ён цябе яблыкамі не пачаставаў? — здзівілася я.

— Не ведаю, — разгубіўся бацька...

— Да-а-а, рызыковая была ваша баба Паша, — падсумоўвае маці свой расказ.

А я ад сябе дадам, што Трайтава гэтага я бачыў таксама. Калі працаваў у Слаўгарадскай раённай газеце, то нярэдка даводзілася прысутнічаць на ветэранскіх урачыстасцях, але ні пра здарэнне ў 41-м, ні пра куплю яблыкаў я на той час не ведаў, а таму не паглядзеў яму ў вочы.

Магчыма, меў бы цяпер лішні узор пры вызначэнні "гатунку" людзей.

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ**

РЭПЛІКА

# Хто ў хаце гаспадар?

Будынку, што стаіць на праспекце Фрунзе пад нумарам трынаццаць, больш за сто гадоў. Калісьці ў ім доўгі час працавала электрастанцыя, якая давала ток першаму віцебскаму трамваю. Сёння ў гэтым адрамантаваным і ўтульным доме размясціліся экспанаты літаратурнага музея — філіяла абласнога краязнаўчага, адзінага такога ў рэспубліцы.

У гэтым жа будынку размясцілася і прыватная кавярня, якая арандуе ў ім памяшканне. Уладальнікі кавярні і адрамантавалі будынак, на якім зараз дзве шыльды запрашаюць наведвальнікаў. Кожная да сябе. Праўда, музейная шыльда невялічкая. Затое далёка бачна нават няўзброеным вокам рэспектабельная, амаль на ўсю сцяну шыльда-пано "Альгерд". Дарэчы, гэты дом стаіць на былых абарончых валах, узведзеных віцебскім князем Альгердам. Тут вяліся калісьці археалагічныя раскопкі. А сёння п'юць і закусваюць.

На маю думку і на думку многіх, суседства культурнай установы і ўласніцкай кропкі грамадскага харчавання, мякка кажучы, непажаданае. Літаратурны музей працуе з мая 1998 года. А дагэтуль будынак пад яго рамантавалі каля дзесяці гадоў. І столькі ж збіралі будучыя экспанаты. Музей і кавярня адкрыліся разам: дзяржаўная наша беднасць і прывяла да такога непажаданага суседства.

Шмат здароўя ўклалі ў музей дырэктар абласнога краязнаўчага музея Вольга Акуневіч, загадчыца літаратурнага музея Святлана Казлова, работнікі ўпраўлення культуры аблвыканкама. І многія наведвальнікі ўдзячныя ім. Сёння ў музеі наладжваюцца літаратурныя вечарыны, адзначаюцца юбілеі пісьменнікаў, праходзяць прэзентацыі новых кніг. Нягледзячы на безграшоўе, экспазіцыя музея з кожным годам папаўняецца экспанатамі. І той плошчы, якой валодае музей сёння, ужо не хапае. Затое на недахоп яе не скардзяцца арандатары кавярні "Альгерд". І папракнуць іх, на першы погляд, няма чым: яны плацяць арэндную плату за памяшканне, дзе ўсё амаль на ўзроўні "еўра". Толькі вось памеры гэтай платы (куды і на якія патрэбы яна ідзе?) высветліць цяжка. Не ведае пра гэта ні Акуневіч, ні вядучы спецыяліст па музеях упраўлення культуры аблвыканкама І. Шышкова.

У трох залах — самыя розныя экспанаты, побытавыя прадметы старых часоў: энцыклапедыя начысціцкая, беларуская батлейка, самапрадка, ступа з таўкачом. Не абдзелены ўвагай рускія пісьменнікі, падарожныя шляхі якіх так ці інакш пралягалі праз Віцебск і Віцебшчыну: Гогаль, Пушкін, Шаўчэнка, Лажэчнікаў. Наведвальнікі музея даведваюцца, што на нашай зямлі нарадзіліся літаратары Фёдар Князнін і Фёдар Багамолец. Ёсць тут звесткі і пра філаматаў-філарэтаў, прадстаўлена асобнымі куточкамі творчасць вядомых землякоў: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна. А вось куточка для творчасці Петруся Броўкі, Пімена Панчанкі, Еўдакіі Лось не знайшлося.

— Усё гэта будзе, але не зараз, бо не хапае плошчы, сродкаў, — кажа загадчыца музея С. Казлова.

Так, не хапае. І славутай плошчы, з якой, па сутнасці, і пачалася размова. Вось толькі і тая, што існуе, часам выкарыстоўваецца немэтазгодна. Скажам, значная частка яе аддадзена польскамоўным пісьменнікам, хоць і нашым землякам, як Ян Баршчэўскі, аўтар "Шляхціца Завальні". Прыпісаліся тут незразумела чаму матэрыялы пра лётчыка Леванеўскага, музыканта Салярцінскага. А музей жа, падкрэсліваю, літаратурны. Дык чаму тады няма ў ім нават намёку на аднаго з родапачынальнікаў беларускай літаратуры, таксама нашага земляка, Фелікса Тапчэўскага — "Хвэлькі з-пад Рукшэніц"?

— Пра яго мы не маем амаль ніякіх звестак, а каб перапісвацца, шукаць іх — няма грошай і няма каму: у нас, апрача мяне, праце адзін навуковы супрацоўнік і я — і загадчыца, і экскурсавод у адной асобе, — тлумачыць С. Казлова.

У нашай вобласці жывуць і працуюць 27 сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў. І толькі да 20-годдзя абласнога аддзялення быў выстаўлены стэнд з іх некаторымі кніжкамі, часопіснымі публікацыямі. Могуць запярэчыць, маўляў, усе яны жывыя, няхай пішуць, працуюць. Яно так. Але фотаздымачак і кароткая біяграфія кожнага з іх, хаця б адна-дзве кніжкі ўсё-такі павінны знайсці сваё месца ў музеі. І пошукаў тут, і грашовых сродкаў не трэба аніякіх: усяго трэба набраць нумар тэлефона патрэбнага літаратара... І ўжо зусім неяк няёмка напамінаць пра ўшанаванне памяці памерлых. Да прыкладу, пра Міхася Барэйшу...

Дык каму ж, урэшце, павінен належаць будынак? Ён рамантаваўся, рыхтаваўся менавіта пад музей. А потым начальства (якое, аўтару і тут не ўдалося высветліць) распарадзілася аддаць частку яго пад арэнду прыватнай кавярні. Такім чынам месца ў музеі не хапае. Затое кавярня раскашуе.

Вось так і існуюць у адным памяшканні дзве ўстановы, здавалася б, несумяшчальныя ні па даху, ні па мэтанакіраванасці. Прыбіральня і раздзявальня належаць кавярні і, каб распрануць экскурсантаў, патрэбны дазвол яго ўладальнікаў.

У размове з тымі, хто мае непасрэднае дачыненне да музея, прамільганула і такое нібы апраўданне: у кавярні за кубкам кавы могуць збірацца і літаратары. Збіраліся б, каб не цэны... А ў мяне ўзнікла свая, "крамольная" думка: а чаму б, скажам, не падсілкаваць падчас наведвання музея экскурсантаў (большасць якіх — школьнікі, навучэнцы вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ) тым жа бутэрбродам з кавай па даступнай ім цане? Не збяднелі б уласнікі кавярні, а добрая слава засталася б.

— Усё можна было б зрабіць разумна, памяркоўна. Толькі вось уласнік ёсць уласнік. Вядома, хто плаціць, той і музыку заказвае. Арэндная плата ідзе... Будзем спадзявацца, што з заканчэннем тэрміну арэнды будынак музея будзе поўнасцю музейным, — рэзюмавала І. Шышкова. — А кіраўнікам літаратурнага і абласнога краязнаўчага музеяў трэба быць больш настойлівымі ў гэтай справе.

Так, музею патрэбны адзін гаспадар. Тады не будзе ад яго двух ключоў. Знікне патрэба ва ўтрыманні трох наглядчыкаў. Хапіла б і аднаго. З'явілася б магчымасць узяць у штат музея другога навуковага супрацоўніка: работы шмат. А то Святлана Мікалаеўна ў музеі, як ужо высветлілася, і швец, і жнец, і на дудзе ігрэц.

Дырэктар абласнога краязнаўчага музея В. Акуневіч папрасіла не чапаць кавярню "Альгерд" — скончыцца тэрмін арэнды і ўсё стане на сваё месца.

А я не мог не зачапіць, бо справа з "музеемкавярняй", як пазначана на шыльдзе, я ў гэтым упэўнены, не скончыцца са сканчэннем тэрміну арэнды. І пішу я гэты матэрыял са спадзяваннем на тое, што ўладная абласная вертыкаль дапаможа літаратурнаму музею стаць сапраўды культурна-асветніцкай установай, месцам шанавання нашай роднай багатай літаратуры.

**Алег САЛТУК**

г. Віцебск

## "Шчаслівыя хвіліны"



**Як вядома, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч упэўнена адчувае сябе ў розных галінах творчай дзейнасці. Не чужая яму і дзіцячая літаратура. Набыткі ў ёй у Ніла Сымонавіча надзіва важкія, аб чым засведчылі кнігі "Сцяжок на мачце", "Сіні домік, сіні дом", "Зялёны востраў", "Дождзык-грыбасей", "Калі рана ўстаеш" і іншыя. І вось чарговая — "Шчаслівыя хвіліны", што пабачыла свет у выдавецтве "Юнацтва" напярэдадні 70-годдзя Майстра. Назва яе, можна сказаць, сімвалічная. Сапраўды, знаёмства з новымі творамі знакамітага пісьменніка прынясе маленькім чытачам (зборнік у першую чаргу адрасаваны дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту), нямала шчаслівых, радасных хвілін, бо вершы, казкі, байкі, небыліцы, загадкі, што прадстаўлены ў ім, напісаны па-майстэрску, з багатай творчай фантазіяй, са здзіўляючым уменнем ствараць яркія, непаўторныя вобразы. А яшчэ — гэта таксама вельмі важна — Н. Гілевіч гаворыць з дзеткамі нязмушана, адкрыта, умее знаходзіць тэмы, якія не могуць іх не хваляваць. У гэтым добра пераконвае першы раздзел, які і даў назву кнізе. Хораша гучыць верш "Я — беларус", напісаны ад імя лірычнага героя. Маленькі грамадзянін з гонарам прызнаецца ў любові да сваёй Радзімы:**

*Я — беларус, я нарадзіўся*
*На гэтай казачнай зямлі,*
*Дзе між лясоў і пушчаў дзікіх*
*Адвеку прашчуры жылі.*

*Я — беларус, я ганаруся,*
*Што маю гэтае імя:*
*Аб добрай славе Беларусі*
*У свеце знаюць нездарма!*

**Любіць жа Беларусь — значыць, любіць усё роднае, блізкае, дарагое з маленства. І не саромецца гэтай любові, наадварот, часцей нагадваць аб ёй:**

*Я — беларус, я шчаслівы,*
*Што маці мову мне дала,*
*Што родных песень пералівы*
*І зблізку чую, і здаля.*

*Я — беларус, і хоць сягоння*
*Яшчэ малы, але скажу:*
*Я родам з племя непакорных*
*І ў час бяды не задрыжу!*

**Думаецца, гэты твор з задавальненнем прачытаюць не толькі самі хлопчыкі і дзяўчынкі. Звернуць на яго належную ўвагу і выхавацелі дзіцячых садоў, настаўнікі пачатковых класаў, бо верш "Я — беларус" можна падрыхтаваць для дэкламавання ў час ранішнікаў, іншых мерапрыемстваў. Ды і іншыя творы з гэтага раздзела маюць, калі можна так сказаць, прыкладное значэнне. Яны могуць (і павінны) загучаць у час святаў, імправізацый. У тым ліку і верш "Добры чалавек", напісаны з цудоўным веданнем дзіцячай псіхалогіі.У творы важкі дыдактычны элемент, але Н. Гілевіч не павучае, а запрашае саміх дзетак лепей задумацца, як трэба жыць у згодзе з усім, што акружае цябе. А менавіта так жыве хлапчук, пра якога расказваецца ў творы. Ён не крыўдзіць божую кароўку, не разбурае птушынае гняздзечка. Ён усю прыроду любіць. У тым ліку і крынічку, што "ў аеры блішчыць". І ўсё, сустракаючы хлапчука,прамаўляе:**

*— Я знаю: ты добры, ты добры —*
*І ты не пакрыўдзіш мяне!..*

**Асноўная думка закладзена ў гэтых радках:**

*Ах, як гэта радасна ведаць,*
*Што, лічачы сябрам сваім,*
*Усе цябе любяць і вераць,*
*Што крыўды не зробіш ты ім!*

**Багатыя на цікавыя творы і іншыя раздзелы: "Чатыры пары — чатыры дары", "Нашы добрыя сябры", "Калі ранец лёгкі і калі цяжкі?", "За што пападала малпе", "Загадкі". Н. Гілевіч прапануе ў іх і напісанае паводле балгарскіх паэтаў, кожным разам уносячы ў знаёмыя матывы штосьці сваё, а гэта дазваляе творам стаць яшчэ больш прыкметнымі, арыгінальнымі. Кніга "Шчаслівыя хвіліны" — цудоўны падарунак беларускай дзятве.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# "Мае Афіны тут — назваў іх Бандарамі"

### АНТЫЧНЫЯ МАТЫВЫ Ў ЭРАТЫЧНАЙ ЛІРЫЦЫ АЛЕСЯ БАРСКАГА

Вызначальная рыса ўсёй творчасці Алеся Барскага, беларускага паэта з Беласточчыны, што працінае не толькі інтымную, пейзажную, філасофскую, але і грамадзянскую лірыку паэта, — эратычны элемент. Мастак сцвярджае абсалютнае права кахаць, спалучаючы духоўнае і фізіялагічнае. Што тычыцца "права", то, як вядома, эратычныя ўцехі ўпершыню легітымізавалі старажытныя грэкі. Погляды антычных творцаў адыгралі велізарную ролю ў гісторыі сусветнай філасофскай думкі. Бадай, няма ніводнай больш позняй эстэтычнай сістэмы, што фарміравалася б без уліку іх дасягненняў.

Усё грэчаскае мастацтва класічнай пары — пошук усеагульнай гармоніі, спалучэнне рэалістычнага і ілюзорна-фантастычнага погляду на свет, міфалагічнае тлумачэнне рэчаіснасці. Светаўспрыманне лірычнага героя А. Барскага — амбівалентнае. Каханне ў яго — пачуццё адначасова шэрае і каляровае, салодкае і балючае, пачатак і канец, "нараджэнне жыцця і смяротэльнасць агоніі", распуста і цнота. Такія ж матывы, упершыню выкарыстаныя Сапфо, у шматлікіх перапевах сустракаюцца ў старажытных грэкаў. Так, у Пасідзіпа: "Хай намі кіруе адзін асалодка-гаркавы Эрот". Вядомае катулаўскае "і ненавіджу яе і кахаю" выступае апагеем трагічнага распаду цэласнага пачуцця. У сучаснага паэта пошук гармоніі ў каханні, пераадольванне раздвоенасці праз шматлікія рэфлексіі асобы абяцае ўзгодненасць, суладнасць сэрца і розуму. Лірычны герой прыходзіць да высновы, што ў дваістасці і заключаецца сутнасць жыцця, што раздвоенасць і ёсць аснова шчасця. Такім чынам, наблізіўшыся на нейкі момант да гармоніі, ён асуджаны на заўсёдны пошук яе.

У вершах А. Барскага надзвычай адчувальная язычніцкая аўра. Пры гэтым політэізм аўтара не абмежаваны ў часе і прасторы. У межах аднаго верша мірна суіснуюць і паганскі лясун, і Пегас, і нават Хрыстос. Больш таго, для паэта сонца, вецер, неба, зоркі выступаюць як пантэістычныя з'явы. Яны персаніфікуюцца, надзяляюцца якасцямі вышэйшых істот, спалучаючы рысы антычных і паганскіх багоў. Найбольш цікавы ў эратычным сэнсе вобраз сонца. Як вядома, славянскі Ярыла звязваўся з фалічным культам. Звычайны атрыбут Эрота, паводле ўяўлення паэтаў эпохі элінізму, — лук, стрэлы якога выклікаюць жар кахання. Створаны А. Барскім бог кахання — Сонца —убірае, сінтэзуе ў сабе функцыі і знешнія адзнакі абодвух.

***Лук сонца** выгнуўся, напружыў,*
*І **стрэлы сонца** паляцелі на зямлю.*
*А май у бэзе, фіялетавы і дужы,*
*Пахучасць сінюю даў роснаму галлю.*

І як вынік:

*Свет агарнула крыламі каханне,*
*І **сонцам**, бэзам, песняй **стаўся** я.*

Нарэшце, сонца, промні ўзвялічваюцца да сімвалаў, а эпітэт "сонечны" часта набывае значэнне "эратычны". Трэба заўважыць, што семантычнае поле кахання паэт запаўняе "вогненна-светлавымі" паняццямі: жарынка — агонь — полымя — пажар — зорка — лазер. Прыклады "дотык, як лазер", "полымя экстазаў", "промні — погляд" сведчаць, што ў мове кахання семіятычнае значэнне набывае погляд, пастава, дотык, рух, голас, вочы, валасы, адзенне і нават інтэр'ер. Не трэба гаварыць, колькі ўвагі ўдзялялі антычныя мастакі такім "дробязям". Дарэчы, матыў распранання, распрацаваны імі, паэт па-майстэрску пераносіць на навакольную прыроду, што надае яго пейзажам адкрыта эратычную афарбоўку. Як, скажам, у выпадку з небам:

*...яно прыкрыла стужкай белай —*
*дарогай млечнай — частку цела,*
*але і так нямала відна*
*дэталяў гожых і устыдных.*

Напоўненасць эратычным святлом робіць пейзажы А. Барскага адметнымі і пазнавальнымі. У той жа час адчуваецца апраўданасць такога прыёму, арганічнасць злучэння eros і physis. У пейзажных замалёўках, гаворачы словамі паэта, "вусны не лішнія". Дарэчы, вусны мастак ператварае ў яркую эратычную дэталь, робячы характэрны для яго творчасці перанос на неадушаўлёныя прадметы. У той жа час такая адзнака кахання, як пацалунак, выглядае сціпла і цнатліва. Лірычны герой сарамліва адводзіць вочы ад закаханых пар у Парыжы:

*І як цалуюцца, устыд агорне*
*душу і сэрца славяніна —*
*мы ж прыкрываем ноччу чорнай*
*свой пацалуначак з дзяўчынай.*

Карэляцыя, як бачым, парушаецца. У падкрэслена эратычнай вершатворчасці паэта гэта выглядала б нечакана, калі не ўлічваць традыцыйны маральны імператыў беларуса. Часта прызначэнне пацалунка ў А. Барскага не індывідуалізаванае, абагуленае, шырокае. Так, перапоўнены шчасцем лірычны герой "гатовы цалаваць кагосьці". "Кагосьці" ў дадзеным выпадку прыраўноўваецца да "ўсяго свету". Часам зліццё вуснаў увогуле выносіцца ў грамадзянскую і прыродаапісальную лірыку. ("Цалуюся з вясёлкай, як з дзяўчынай").

Шчодра дарыць пацалункі, абуджаючы пачуццёвасць, даручана ветру. Гэтаму свавольніку аўтар дазваляе цалаваць кветкі і бярозы, у яго вусны ўкладвае "оду аб прывабнасці ўзлоння". Як і сонца, вецер паўстае вобразам яскравай эратычнай скіраванасці. Сонца і вецер, адвечныя і неразлучныя спадарожнікі, замацоўваюцца паэтам як эмблема роднага краю:

*І ў гербе мець, як ты*
(*родны край.* — **А. Б.**),
*Заўсёды сонца й вецер.*

Удалай, на наш погляд, з'яўляецца неадназначная метафара "на арфе павучыння грае вецер", якую, згодна з Ю. Пацюпам, нельга не прачытаць у эратычным сэнсе. У антычных майстроў слова вецер — не проста эратычны элемент, а і носьбіт пэўнага набору якасцей і функцый, уласцівых богу кахання. Так, Івік цалкам атаясамлівае Эрас з ветрам, з бурным віхорам.

Наогул, эротыка ў творцы цесна звязана з роднымі краявідамі, каханне магчыма толькі на ўлонні прыроды. Незадаволенасць жыццём у вялікім горадзе, моцнае адчуванне сваіх каранёў прыводзіць да ідэалізацыі вясковага свету, да намаганняў паэта зліцца з прыродай у адзінае цэлае. Тут нельга не згадаць букалічную паэзію Феакрыта, Біёна, Мосха. Мастак свядома ўзмацняе падабенства разгорнутым пастаральным малюнкам, героі якога "ў пастушых вопратках убогіх пасвілі сваё каханне". Розніца толькі ў тым, што прадметам увагі вершаў-ідылій быў яркі спякотны поўдзень, а А. Барскі прыкрывае сваё каханне смугою змяркання. Такая еднасць з акаляючым светам у спалучэнні з вакхальнымі матывамі, даволі пашыранымі ў антычным мастацтве, нараджае нечаканыя асацыяцыі:

*Сосны, як зялёныя бакалы,*
*рукой зямлі да сонца ўзняты,*

# Узыходжанне да сэнсу

Ці часта вы сустракалі ў сучаснай літаратуры раманы пра сэнс жыцця? Пагодзімся — не вельмі. Тым не менш мне сустрэўся гэты рэдкі від — я кажу пра раман "Цяжар спробаў" Алены Паповай у трэцім нумары часопіса "Знамя" за мінулы год. Аўтары-жанчыны за апошнія гады добра-такі пацяснілі моцны пол на старонках перыёдыкі; прычым калі пачыналі як правіла з традыцыйных раманаў, дзе замацаваннямі глыбіннага сюжэта з'яўляюцца любоўныя адносіны герояў, то потым усё далей паглыбляліся на тэрыторыю крымінальнага дэтэктыва. Алена Папова выбіваецца з гэтага шэрагу, прычым, з усіх іншых шэрагаў таксама.

Перш за ўсё Алена Папова — драматург са стажам і рэпутацыяй, пераможца (як і А. Слапоўскі) І Еўрапейскага конкурсу п'ес, яе п'есы іграліся на сцэнічных пляцоўках Масквы, Пецярбурга, Таліна і, натуральна, Мінска, дзе яна жыве; на Захадзе, на Бонскім Біенале спектакль "Пястун лёсу" Рускага тэатра г. Мінска быў фаварытам. П'есы пераклалі на нямецкую, выдаюць у Лондане. Новыя п'есы ідуць у Беларусі — што ж прымусіла прызнанага тэатральнага аўтара (а як вядома, талент драматурга сустракаецца радзей за іншыя) звярнуцца да жанру рамана? Каб высветліць гэта, звернемся да асаблівасцей почырку аўтара п'ес, вось яе ўласнае прызнанне: "Не шукайце сонца там, дзе яно села. З майго пункту погляду, цяпер тэатр прыйшоў у нейкі тупік у пагоні за бляскам, вытанчанасцю, эфектамі, хлёсткасцю, дасціпнасцю, карацей, за формай, што само па сабе цудоўна; тэатр неяк адышоў ад чалавека, ад яго болю, ад яго цяпла, дыхання, ад яго сутнасці". П'есы Паповай нясуць у сабе гэтае жывое, яны не пабудаваны, не сканструяваны, яны развіваюцца як жывыя арганізмы, часам нечакана і парадаксальна, што дазваляе пры пастаноўцы ўжыць аб'ёмнае вырашэнне, якое перавышае акрэсленую словам прастору. Для аўтара слова — гэта знак, за якім стаіць свет пачуццяў, паэзіі, падтэкст.

І вось цяпер раман, унутры якога таксама адчуваецца няспынная цякучасць быцця. Нездарма скразны вобраз рамана, правільней сказаць, асноўная яго стыхія — гэта вада, якая марудна прыбывае, нябачна прасочваецца па кроплі праз усе поры глебы і сцены жылля. Гэта нячутнае запаўненне вадой Горада ёсць вобраз запаўнення жыцця часам, яго працякання скрозь нас. Горад як месца дзеяння і вобраз Горада — жывой істоты, рысы твару якога адкрываюцца гераіні рамана Зенце не адразу, з той размеранай паступовасцю жыцця, якая задаецца самім рытмам пісання, тым музычным гукам, на які настройваецца слых чытача літаральна з першай фразы рамана...

А пачынаецца раман амаль з канца — гэта ад'езд Зенты, якая прыслана ў Горад з нейкай місіяй (ва ўсялякім выпадку так успрымае яна сваю працу ў фірме "Добрая вестка"), развітанне з супрацоўнікамі і з усімі, з кім на працягу ўсяго праведзенага тут часу сутыкала яе жыццё. Пасля развітання, аднак, яна не ад'язджае, правільней, не можа паехаць — ці то засмактала яе тая самая водная, правільней сказаць — балотная стыхія: "Людзі на балоце" памятаеце? Вядома, Іван Мележ пісаў пра палешукоў, пра карэнных жыхароў дрыгвы, багны, твані, якія на гэтай зямлі нарадзіліся і іншай не бачылі. А вось Зента (само імя чужароднае, з якіх краёў узятае — незразумела) у Горадзе — прышлая, прысланая ў яго на працу і фактычна не прыжылася ў ім — не пусціла каранёў, не завяла сям'ю, не нарадзіла дзяцей, і тым не менш стыхія гэтай мясціны не адпускае яе. Стыхія або пачуццё абавязку — вось гэта і спрабуе зразумець чытач, пагружаючыся ў чытанне, падпарадкоўваючыся неўпрыкмет для сябе задуме аўтара, які не абавязаны ўсё тлумачыць, а толькі паказвае і расказвае.

Дзейнасць фірмы "Добрая вестка" — аналаг славутага Фонду Сораса, займаецца выдачай субсідый і грантаў па заяўках і праектах; працяглы час Зента знаходзіцца ў прыемнай ілюзіі, што яна раздае гранты справядліва, пакуль не пераконваецца, што склад прасіцеляў старанна селектуецца бацькамі Горада, і ўсе намаганні гэты заведзены гадамі парадак пераадолець аказваюцца марнымі. Тым не менш яна працягвае заставацца на пасту і не кідае пачатую справу. Фактычна, у сваім рамане, як і раней у п'есах, Алена Папова сцвярджае, што ўсё, што адбываецца ў жыцці, ёсць раўнадзейная дзвюх сіл: гэта стыхія вады, тая самая "рака часоў у сваёй плыні", якая падпарадкоўваецца толькі свайму ўласнаму закону, незалежнаму ад людзей і незразумеламу для іх, і свядомае намаганне чалавека, падпарадкаванае яго волі і розуму. Так разумее, напрыклад, сваё служэнне Зента. Але менавіта таму, што раўнадзейная ўсё роўна залежыць не толькі ад волі і жадання чалавека, вынік любога намагання ніколі нельга прадказаць. Уласна, менавіта гэтая адчувальная прысутнасць беспачатковай стыхіі і ёсць "фірменны знак" аўтара, што вылучае ўсё, ёю створанае, — і таму не сканструяванасць твора, а яго жыванароджанасць, натуральнасць відавочныя.

Праслаў Зенту ў Горад нейкі пан Шульц — асоба, якая займае ў структуры рамана

*даліце ў грудзі мне запалу,*
*даліце мне мускатаў вінных,*
*пайду жывіцай перапіты,*
*хачу зноў сп'яна пераблытаць*
*ногі бярозы і дзяўчыны.*

Падобнае ідылічнае жыццё — своеасаблівая ізаляцыя ад грамадства. Спасціжэнне грэкамі сакрэтаў мараходства нарадзіла новы матыў у паэзіі кахання — матыў адасаблення з каханай сярод стыхіі вады. Неаднаразова паўтораны А. Барскім, гэты матыў гучыць зусім не па-эпігонску. Творчая фантазія паэта змяшчае "востраў шчасця" на сярэдзіне жытнёвага поля:

*Я вясло прынясу, дарагая, —*
*вясло з тонкай сталі адбітай,*
*і тады паплывём па загоне*
*на востраў нашага шчасця.*

Шматзначны вобраз берага арганічна ўплецены аўтарам у мастацкую тканіну вершаў. З аднаго боку, бераг — стваральнік меж і перашкод прасторы, з другога — ціхае прыстанішча, утульны куточак спакою і шчасця.

Плённа распрацоўвае А. Барскі і матыў цяжарнасці. Трапяткія, пяшчотныя, далікатныя вершы аб цяжарнай жанчыне змяняюцца філасофскімі развагамі з налётам дыдактызму ("цяжка быць бацькам"). Матыў цяжарнасці часта ўвогуле выносіцца А. Барскім па-за межы тэмы кахання. Паэтава "даліна, цяжарная наліўным калоссем", відавочна, стаіць у адным шэрагу з "беременным городом" Феагніда. У пераважнай большасці выпадкаў фертыльнымі здольнасцямі паэт надзяляе зямлю, у выніку чаго наскрозь прасякнуты эротыкай працэс сяўбы. Зразумела, нельга не заўважыць фальклорных вытокаў такога бачання. Але тут слушна было б звярнуць увагу на антычныя культы і святы. Побач з оргіевымі культамі Афрадыты і Фаласа, флараліямі і вакханаліямі імя багіні земляробства і ўрадлівасці Дзяметры, багіні з больш "сур'ёзнымі" функцыямі, на першы погляд выглядае недарэчна. Аднак Элеўсінскія містэрыі, асеннія святы ў гонар багіні земляробства заключаліся ў сімвалічным полавым акце жраца Зеўса і статуі багіні, пасля чаго народу прад'яўлялася калоссе як доказ таго, што маці збажыны імгненна апладнілася і нарадзіла яго.

Як вядома, найвышэйшае праяўленне пачуцця ў антычнасці ёсць абагаўленне сваёй каханай, надзяленне яе рысамі, уласцівымі насельнікам Алімпа. Гэты ўлюбёны старажытнымі грэкамі прыём трансфармуецца А. Барскім з улікам багоў яго паэтычнага свету:

*Ты створана небам,*
*Шчодрай яго жменяй,*
*Людзі ні пры чым тут,*
*Людзі — старана.*
*Пахнеш навальніцай,*
*Сонечным праменнем*
*Ва ўсім свеце гэтым*
*Толькі ты адна.*

Тут патрабуецца невялікі каментарый. Вядома, што ў эпоху класічнай Грэцыі жанчына стала больш прыніжанай, бяспраўнай. Цалкам выключаная з грамадскага жыцця, яна ўспрымалася толькі механізмам для нараджэння дзяцей. Аднак літаратура захавала нямала вобразаў жанчын, якім прысвечаны вершы, перапоўненыя пажадлівасцю і адкрытым захапленнем. Парадоксу тут няма. Часцей за ўсё ў першым выпадку замест "жанчына" трэба чытаць "мужава жонка", а ў другім — "палюбоўніца, каханка". Паэт не толькі кідаў да ног каханай плён сваёй творчасці, а часта падпарадкоўваў уласнае жыццё яе капрызам і прыхамацям. Пры гэтым жаданае імя давала назву кнізе "Нано" Мімнерма, "Лявонціян" Гермесіянакта, "Ліда" Анцімаха. На сённяшні дзень нязвыкла хіба толькі тое, што антычныя паэты не ўтойваюць імёнаў сваіх гераінь. Адметна, што пераважная большасць інтымных вершаў А. Барскага адрасуецца яго жонцы, імя якой — Ніна— апяваецца паэтам. Яна для яго — заўжды багіня, Мадонна:

*Я стану на калені*
*І дамалюю*
*Ніна Лізу.*

Цікавым падаецца і выкарыстанне А. Барскім анакрэантычнага матыву жадання ператварыцца ў які-небудзь прадмет, каб быць як мага бліжэй да каханай. Такім прадметам невыпадкова абраны яблык. Паэт, відавочна, разлічвае на ланцуг асацыяцый чытача: яблык разладу, яблык спакусы. Апрача таго, эфект узмацняецца зменамі, у якіх угадваецца эратычны падтэкст: "цвет, адцвіўшы на галіне" — "я поўны сонечным праменнем" — "я ссаў з зямлі радзімай сокі" — "ад вятроў-гуляк я п'яны". Лагічнай выглядае і заключная метамарфоза:

*Прыйдзі, дзяўчына, пад галіны,*
*і я табе ў рукі рыну;*
*...вазьмі ў рукі, у калені,*
*грудзьмі і тварам прытуліся,*
*а ў сына я ператваруся.*

Такі падыход ужо знаёмы нам з паэтыкі творцаў элліністычнай пары, дзе яблык хоць і з'яўляецца сімвалам, але традыцыйна, яшчэ ад суда Парыса, мае практычнае прымяненне. У элегіі Калімаха аб Аконціі і Кідзіпе менавіта гэты плод паслужыў сродкам заручын закаханых.

Безумоўна, што намі закранута і асветлена толькі некалькі агульных матываў вонкава непадобнай творчасці сучаснага паэта і антычнай эпохі. Можна гаварыць аб непасрэдных ці апасродкаваных, свядомых ці несвядомых пераймannях і ўплывах антычных аўтараў на творчасць А. Барскага, але і нельга зводзіць відавочнасць агульных матываў, сюжэтаў, вобразаў да звычайнага ці выпадковага супадзення. Хутчэй за ўсё гэта падабенства ёсць з'ява арганічна засвоенай шматвяковай культуры чалавецтва, яе зацікаўленай прысутнасці ў сучаснай мастацкай прасторы.

**Ала БРАДЗІХІНА**

*г. Гомель*

і ў лёсе Зенты зусім асаблівае месца, афарбаванае містычна, асабліва пасля яго смерці — яна бачыць яго ў сне, і гэтыя сны нясуць ёй супакаенне, праясняюць сэнс таго, што адбываецца. Адначасова менавіта сны тлумачаць Зенце, што яе апякун не такі ўжо і ўсясільны, як ёй здавалася, ён таксама паражальны, і ў першую чаргу паражальны менавіта ў сваёй прывязанасці да Зенты. Ён блаславіў яе на бескарыснае служэнне справе, даў першасны штуршок для ініцыятывы — і пакінуў, як чароўны памочнік з казкі — далей не ў моцы ёй памагчы. А памагаюць ёй, нават ратуюць ад смяротнага здранцвення, ад кепскага вока патаемных ворагаў дзве звычайныя жанчыны, яе памочніцы Ніна і Ірына, да якіх сама Зента ставілася дагэтуль гэтак паблажліва. А яны выяўляюць неслабую здагадлівасць і самаадданасць, абараняючы яе, пацвярджаючы тым марнасць знаходжання Зенты ў Горадзе. Карэнныя жыхаркі заўсёды лепш разбіраюцца ў інтрыгах і таямніцах мясцовага жыцця. Гэтак памочніцы Зенты здагадаліся, што яе зачаравалі, і лечаць адпаведна, здымаючы сурокі ў чараўніка. Самае дзіўнае, што ў наш час "татальнага акультызму" гэта не здзіўляе і не насцярожвае нават адукаванага чытача, а прымаецца ім як належнае. Зніжанае стаўленне да памочніц, ва ўсялякім разе — да адной з іх праглядвае не толькі ў Зенты, а й у самога аўтара, які надзяляе Ніну яўна іранічным прозвішчам Лапсердак. У далейшым з'яўляецца муж Ніны, які калісь уцёк у Амерыку, адкрывае ў Горадзе справу, якая напачатку бурна разгортваецца, а потым пасля таго, як Міша Лапсердак не паладзіў з бацькамі Горада, хутка рухне. Сутыкненне любой ініцыятывы з мясцовай наменклатурай — канфлікт, які дае бясконцае мноства варыянтаў сюжэта сучаснага, як дамскага (Т. Палякова асабліва выразны прыклад), так і мужчынскага сучаснага дэтэктыўнага аповеду; у Алены Паповай наменклатуру ў Горадзе ўзначальваюць ліліпуты, што можна прачытаць як літаральна, так і сімвалічна. "Тайныя спружыны быцця" не адразу адкрываюцца Зенце, нават пасля запрашэння ў лазню для выбраных, калі сярод прысутных знаходзіцца на шчасце для яе ананімны абаронца — а сцэна разгулу пачвар напісана гратэскна, проста-такі з Босхаўскай сярэдневяковай яркасцю — толькі пасля краху гандлёвага цэнтра Мішы Лапсердака праясняецца для гераіні аповеду пачварнасць і мізэрнасць правячых Горадам сіл, і непарушнасць, укаранёнасць у глебу гэтай іерархіі невыкараняльныя. Што ж застаецца рабіць Зенце пры гэтым непарушным парадку рэчаў? Ды тое ж самае, што і ўсім нам: трэба жыць, мілыя сёстры, трэба жыць. А апошняе слова аўтара — пра другую памочніцу Зенты — Іру У., у якой за час дзеяння рамана вырасла і паехала ў Амерыку дачка з мужам, вырас і пакінуты дачкою ўнук, а калі дачка вярнулася, то знайшла толькі магілу маці — амаль нямой на працягу рамана, напачатку маладой і прыгожай, а потым усё яшчэ прыгожай, але ўсё менш маладой Іры У., якая сціпла і самааддана праслужыла фірме "Добрая вестка" ўвесь адпушчаны тэрмін. Як мы бачым, у аўтара складаныя адносіны з імёнамі і прозвішчамі герояў — так, у Зенты прозвішча ўвогуле няма, што падкрэслівае, як нам здаецца, пазачасавую і пазанацыянальную прыроду галоўнай гераіні, адсутнасць "арганікі" ў гэтым вобразе; прозвішчы маюць у рамане Паповай першаснае значэнне мянушкі, і па ім лёгка зразумець адносіны аўтара да персанажа, прыём не новы, аднак натуральна ўпісваецца ў структуру рамана. Раман цяжка паставіць у які-небудзь шэраг, правесці паралелі — калі толькі з п'есамі гэтага ж аўтара: настолькі неадназначная зададзеная сітуацыя, непрадказальна разгортваецца дзеянне, мудрагеліста, з выгінамі, падобна ліберці разгортваецца аповед, які прачытваецца не спехам, а з неаслабнай цікавасцю.

**Любоў ТУРБІНА**

КНІГАРНЯ

# У восені — сваё хараства

Ва ўзросце больш, чым сталым; ва ўзросце, калі хочаш таго ці не, але ўсё больш думаецца аб вечнасці, сутнасць якой спасцігнуць пры жыцці нікому не дадзена; ва ўзросце, што перакрочыў адметку восемдзесят, і назва кнігі адпаведная — "Позняя восень". А менавіта так назваў свой чарговы зборнік слынны паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Пятро Прыходзька. У жыцці Пятра Фёдаравіча і сапраўды жыццёвая восень. Але, перачытваючы творы — кніга складаецца з вершаў, балад,паэм, пераконваешся, што душа П. Прыходзькі па-ранейшаму маладая, а сам ён, гэтаксама, як і раней, глядзіць на свет і людзей аптымістычна. Канечне, не абыходзіцца і самотліва-тужлівых момантаў, але разам з тым у творах нямала святла, радасці, бо гэта натуральны стан П. Прыходзькі-жыццялюба.

Адзін з лепшых вершаў кнігі — "Мой космас", напісаны нядаўна, 15 мая 2000 года. Дарэчы, даты ёсць і пад іншымі творамі, у некаторых выпадках, праўда, яны не звязаныя з канкрэтным днём. Але таксама да месца, бо дазваляюць адчуць, як выкрышталізоўвалася паэтава задума, як паступова ўвасабляў ён яе, ідучы да слова адзінага, слова важнага і патрэбнага. А "Мой космас", відаць, напачатку нарадзіўся ў думках, а пасля, асэнсаваны, лёгка лёг на паперу. Ва ўсякім разе адчуванне такое, што ўсё напісана на адным дыханні — настолькі хораша прамоўлена і так шмат сказана:

***Дзе свабоды дух крыляе,***
***Многія глядзяць туды.***
***На зямлі ж я космас маю***
***З пахам хлеба і вады.***

***У мяне сваё тут неба,***
***Домік са страхой пад ім.***
***Пад нагамі — тая глеба,***
***Што не мае дна зусім.***

Але гэты "космас зямны" неаддзельны ад усяго Сусвету. Каб выказаць гэтую повязь П. Прыходзька таксама знайшоў праўдзівыя і пераканаўчыя радкі. І таксама нарадзіліся яны ў глыбіні душы і адпавядаюць яе стану, а стан такі, што хочацца паяднацца і з зямным наваколлем і з Сусветам. З космасам зямным і космасам у яго традыцыйным разуменні:

***Пад Мядзведзіцай Вялікай***
***Свеціць зорка бы маяк***
***І не можа быць бязлікай,***
***Бо яна адна — мая.***

***Ёсць зямелька маладая***
***У галактыцы маёй.***
***І заўжды душа жадае***
***Вольным птахам быць у ёй.***

Ды Космас — далёка, а Зямля — тут. На ёй жыць і далей. Жыць і ў "познюю восень", дараваную яе вялікасцю жыццём і самім Творцам, які гэтае жыццё стварыў. А жыць, значыць знаходзіцца не толькі ў дні сённяшнім, а і вяртацца ў мінулае. Найперш у нядаўняе, што даўно стала часцінкай тваёй біяграфіі. Біяграфія ж П. Прыходзькі — частка біяграфіі пакалення, якое ўратавала чалавецтва ад карычневай чумы нямецкага фашызму. Яно ж сёння — госць на Зямлі. Даюць знаць аб сабе былыя раны, сказваецца ўзрост. Ад усведамлення гэтага туга апаноўвае сэрца, з'яўляецца элегічны настрой. І яе сведчанне — верш "Памірае наша пакаленне":

***Нават вогнішчаў паходных тленне***
***Адплыло ў далёкія гады.***
***Памірае наша пакаленне,***
***Замятаючы свае сляды.***

***Ўсё, што мела і перацярпела, —***
***У сваю ўвабрала сівізну.***
***Усяго паведаць не паспела***
***Пра сваю крываваю вайну.***

Апошняе — самае страшнае. Таму і набываюць тры заключныя радкі верша такі глыбокі, больш таго — шматзначны сэнс:

***Ды шкада на старасці гадоў,***
***Што памерці можа пакаленне,***
***Не сказаўшы патаемных слоў...***

Сказаць "патаемныя словы" і спяшаецца П. Прыходзька. Найперш у вершах, у якіх ажываюць незабыўныя падзеі Вялікай Айчыннай вайны, актыўным удзельнікам якой ён быў, дайшоўшы да Берліна і завяршыўшы свой баявы шлях вызваленнем Прагі. Падобнае не забываецца. Пра ўсё гэта трэба пісаць, бо толькі з першых вуснаў мы можам даведацца сапраўдную праўду, якой параненейшаму так не стае. Зразумела, магчымасці паэзіі тут, у параўнанні, скажам, з прозай, абмежаваныя. Паэзія ж у першую чаргу пачуццёвасць, настрой. Але ж паэзія — яшчэ і думка. А думка, выказаная чалавекам неабыякавым, шмат значыць. П. Прыходзька ж і належыць да людзей неабыякавых, актыўных, дзейсных, заўсёды гатовых выказаць набалелае, падзяліцца ім з іншымі. А найлепшы субяседнік для яго чытач.

І спавядаецца ўчарашні франтавік:

***Віхурацца няспынна думкі роем***
***Пра тое, што даўно было і ёсць:***
***Нібы няроўным навабранскім строем***
***Ў паход мая выходзіць маладосць.***

Думкі ж гэтыя ўзнаўляюць найбольш памятныя эпізоды, кожны з якіх — часцінка яго ваеннай біяграфіі. І тая праўда пра вайну, якая з пярэдняга краю яе. Як быццам, пра ўсё гэта і напісана шмат, прытым рознымі аўтарамі, а перачытваеш верш "Шлях на волю", і нібыта ўсё ўспрымаеш упершыню. Лёгка пераконваешся, чаму гэта так. А таму, што давяраеш паэту. І яшчэ адчуваеш, што ён, выказваючы набалелае, не імкнецца падацца арыгінальным. Галоўнае для яго— сам факт. П. Прыходзька разумее, што ўласна перажытае, калі яно падпадае пад вызначэнне чагосьці незвычайнага, само па сабе з'ява. Навошта ж, у такім разе, майстэрства дзеля майстэрства. Досыць звычайнай чалавечай споведзі:

***Было ў маім жыцці такое:***
***Бы горла мне сціскаў удаў, —***
***Я па-над Віслаю-ракою***
***Засыпаны зямлёй ляжаў.***

Аднак вайну П. Прыходзька падае не толькі праз уласныя ўспаміны. І не толькі праз успрыманне і бачанне свайго лірычнага героя. Памятаючы, што праз яе прайшло і вайну перажыло цэлае пакаленне, ён звяртаецца і да вобліку асобных яго прадстаўнікоў. Гэта і калегі па пяры, а з некаторымі з іх у Пятра Фёдаравіча склаліся прыязныя ўзаемаадносіны. Але гэта і тыя, з кім ён асабіста незнаёмы. Толькі атрымліваецца, што часам убачыш чалавека, і воблік яго назаўсёды застаецца ў памяці. Адна з такіх сустрэч падказала верш "Гімнасцёрка":

***Ні соладка душы, ні горка —***
***дзе па горадзе стары,***
***На ім старая гімнасцёрка,***
***Яшчэ з ваеннае пары.***

Не развітваецца былы салдат з гэтай гімнасцёркай. І не таму, што жывецца нялёгка і няпроста — на іншую апратку грошай знайшоў. Не знімае гімнасцёрку па іншай прычыне: яна — памяць аб яго агнявой маладосці. І памяць аб сябрах, якія не дажылі да светлага дня Перамогі. Яна — жывая рэліквія:

***Хоць гімнасцёрка састарэла,***
***Ён і ў магілу ляжа ў ёй.***
***Калі ў агні ўжо не згарэла,***
***Дык і не стлее пад зямлёй.***

Не толькі памяццю аб вайне жыве П. Прыходзька. У яго новых вершаў ёсць і іншая памяць: ажываюць непаўторныя малюнкі зямлі маленства, краю, дзе нарадзіўся і адкуль пайшоў у жыццё. Гэта — Магілёўшчына, а калі канкрэтней — Хоцімшчына, а непадалёку і родныя мясціны Аркадзя Куляшова, з якім Пятро Фёдаравіч сябраваў і чый воблік неаднаразова ажывае ў яго творах. А ўвогуле, як і пераконвае кніга "Позняя восень", у П. Прыходзькі моцная повязь з прыродай і нямала вершаў, у якіх ажываюць знаёмыя краявіды, сведчаць аб назіральнасці аўтара, умення стварыць адпаведны настрой. Як у вершы "Тры галінкі глогу":

***Я праходжу вузкаю дарогай,***
***Што пралегла між сівых далін.***
***І ружовых тры галінкі глогу***
***Для сябе зрываю на ўспамін.***

***Хай заслонай стане адзіноце***
***Глог, што азарае белы свет.***
***Нават у асенняй шэрай слоце***
***Бачу я свайго юнацтва цвет.***

"Позняя восень" — шчодрая на дарункі і адкрыцці. Як і сама творчая восень паэта. Вядома, прыдзірлівы чытач, пры жаданні, можа знайсці ў кнізе і слабейшыя вершы — зрабіць гэта не цяжка па той жа прычыне, што зборнік атрымаўся аб'ёмным, звыш дзесяці улікова-выдавецкіх аркушаў, але, я мяркую, што няма патрэбы запыняць на гэтым увагу. І таму, што ні ў аднаго аўтара (і не толькі паэта) ніколі не было і не можа быць твораў раўназначных у мастацкіх адносінах. Ды і таму, што пажаданні можна (і трэба!) абавязкова выказваць літаратару, які знаходзіцца яшчэ на пачатку мастакоўскай дарогі. Як паэт П. Прыходзька сцвярджаецца даўно. А кніга "Позняя восень" — толькі яшчэ адно пацвярджэнне, што ён знаходзіцца ў актыўным творчым страі:

***Не сумуй па леце, што паволі***
***Адплыло ў пражытыя гады.***
***Восень зноўку вось у лузе, ў полі***
***Нанасіла на зіму вады.***

***Маладосці дні тваёй далёка***
***Ўжо аднеслі ў вырай жураўлі,***
***Але ў доле яшчэ больш глыбока***
***Дрэвы карані свае сплялі.***

Паэт упэўнены:

***За далёкім сінім небасхілам***
***Спелы пошум жніўня не пагас,***
***І пары асенняй, творчым сілам***
***Ён перадае спрыяльны час.***

Кніга "Позняя восень", выпушчаная выдавецтвам "Мастацкая літаратура", пацвярджае, што гэта і сапраўды так.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

 ЧАСАПІС

## "Сымон-музыка"

Здаецца, нарэшце ў нашай краіне ўсвядомілі, што кнігі з лепшымі творамі роднай літаратуры чытачы павінны свабодна набываць. Ва ўсякім разе ў гэтым пераконвае зборнік Якуба Коласа "Сымон-музыка", выпушчаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка" накладам больш як трыццаць сем з паловай тысяч адпаведнікаў. А гэта ўпэўнівае, што ён трапіць не толькі ў бібліятэкі, а і ў магазіны. Акрамя знакамітай паэмы народнага песняра, укладальнік Таццяна Сівянок уключыла ў кнігу і многія вершы Я. Коласа. У першую чаргу тыя, якія вывучаюцца ў школьнай праграме, а таксама прапануюцца для пазашкольнага чытання. У шматабсяжны ж свет нацыянальнага класіка ўводзіць знакаміты даследчык беларускай літаратуры (дый гісторык яе) Уладзімір Казбярук, выступаючы з артыкулам "Рамантычная мара паэта". Прачытаўшы яго меркаванні, лёгка падмацаваць іх непасрэдна знаёмствам з творамі. Пачынаючы з верша "Наш родны край", якім, як вядома, і дэбютаваў Я. Колас у першым нумары газеты "Наша доля", што выйшаў 14 верасня 1906 года (пра гэта ў самым пачатку артыкула згадвае і У. Казбярук):

*Край наш бедны, край наш родны!*
*Лес, балоты і пясок...*
*Чуць дзе крыху луг прыгодны...*
*Хвойнік, мох ды верасок.*
. . . . . . . . . . . . . . . . .
*Край наш родны, бедна поле!*
*Ты глядзіш, як сірата,*
*Сумны ты, як наша доля,*
*Як ты, наша цемната.*

Змешчаны ў кнізе і іншыя творы, якія з'явіліся ў Я. Коласа ўслед за "Наш родны край", "Асенні вечар", "Нёман", "Могілкі", "Дарога". У. Казбярук слушна зазначае: "Усё гэта — малюнкі роднага краю", "вобразы пакуты", як называе іх пазней сам аўтар. Якуб Колас спыняе сваю ўвагу на тым, што акружае селяніна і спадарожнічае яму з першых яго крокаў. Усё ў гэтай паэзіі простае, звычайнае, такое знаёмае ў найдрабнейшых дэталях. Але герой паэта бачыць і ўмее цаніць непаўторную красу роднай зямлі, любавацца ўсходам сонца, "пераліўным блескам" яго праменняў, брыльянтавым водблескам расы на сонцы; яго моцна цешыць зялёная рунь маладых пасеваў". Аўтар прадмовы паступова падступаецца да твораў, што сталі "цэлай эпохай у гісторыі беларускай літаратуры" — паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка". І паралель паміж імі праводзіцца невыпадкова: "Абодва творы дапаўняюцца адзін другім. Першы з гэтых твораў — паэма-мара пра сацыяльнае вызваленне працоўнага беларуса, другі — пра яго разняволенне духоўнае. У цэнтры ўвагі аўтара паэм знаходзіцца канфлікт паміж імкненнямі герояў (і Міхала, і Сымона) і тымі ўмовамі, што скоўваюць іх магчымасці, абмяжоўваюць волю". І, канечне ж, даследчык падрабязна расказвае пра самога "Сымона-музыку". Дарэчы, пісаць гэтую паэму Я. Колас пачаў у 1911 годзе пасля выхаду з турмы, значыць, можна гаварыць пра яе юбілей. Выснова, да якой прыходзіць У. Казбярук, такая: "Сымон-музыка" — адзін, бадай, з найбольш асабістых твораў Якуба Коласа па настроях, пачуццях, па перадачы аўтарскіх перажыванняў. І ў той жа час у паэме адчуваецца няўлоўная атмасфера ўспрынятых уражлівай душой песняра павеваў эпохі выспявання грамадскіх канфліктаў і катаклізмаў". Знаёмства з паэмай, несумненна, прынясе нямала радасці. Тыя, хто ўпершыню прачытаюць яе, зразумеюць, якім выдатным паэтам з'яўляўся Я. Колас. А чытачы, знаёмыя з "Сымонам-музыкам", атрымаўшы мажлівасць яшчэ раз прайсціся пуцявінамі галоўнага героя, лішні раз упэўняцца, што толькі мастацтва, якое адлюстроўвае народныя настроі, мае права на жыццё. Менавіта яно — сапраўдная эстэтычная каштоўнасць, што падпадае пад вызначэнне "прыгожае". Гэтыя ўваходзіны ў свет Я. Коласа, у свет "Сымона-музыкі" прынясуць радасць, пачынаючы з уступу:

*Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,*
*Ад казак вечароў,*
*Ад песень дудароў...*

І шмат з чаго іншага збіраўся скарб, які "як доўг, як дар, дае пясняр". У першую чаргу беларускай моладзі, якой і прысвяціў паэму.

Міхась ГЕНЬКА

ПАЭЗІЯ

Генадзь АЎЛАСЕНКА



# Каб зноў спачатку ўсё пачаць...

•

*Паперы чысты аркуш прад вачыма.*
*Не ведаю — аб чым я напішу,*
*каго я сёння ў думкі запрашу.*
*Цябе?*
*Ды не, такое немагчыма!*
*Цень успаміну*
*ўскалыхне душу*
*І знікне...*
*Бо такое немагчыма!*
*Паперы чысты аркуш прад вачыма.*
*Я ведаю — аб чым не напішу!*

•

*Не вып'еш возера нагбом*
*Світанкам раннім.*
*І не праб'еш сцяны ілбом.*
*(Хіба бараннім).*
*І мора не пераплывеш,*
*Не хопіць сілы.*
*І зорку з неба не сарвеш*
*Для любай-мілай.*
*Агеньчык,*
*што ў душы згарэў,*
*Не разгарыцца.*
*Тым,*
*хто заўчасна пастарэў,*
*Чым ганарыцца?!*
*Таму,*
*схлусіў хто хоць бы раз,*
*Ужо не верыш.*
*Дзяцінства непаўторны час*
*Назад не вернеш.*

•

*Сляпы мастак*
*малюе нацюрморты.*
*Трымае пэндзаль*
*тонкая рука.*
*А з-за спіны*
*да слыху мастака*
*даносіцца*
*пяшчотныя акорды.*
*Там,*
*у глыбі пакоя,*
*ля акна*
*Глухі скрыпач*
*смычком па струнах водзіць,*
*Бязгучную мелодыю*
*выводзіць,*
*І ўсё вачэй*
*не зводзіць з палатна,*
*І ўсё вышэй*
*мелодыі гучаць...*

*Сляпы мастак*
*спыніў сваю работу,*
*Глухі скрыпач*
*збірае ў папку ноты,*
*Каб заўтра*
*зноў*
*спачатку ўсё пачаць...*

•

*Так хочацца*
*кагосьці пакахаць!*
*Каханнем*
*захлынуцца,*
*як віном!*
*Салодкім сном*
*душу закалыхаць!*
*Душу закалыхаць*
*апошнім сном.*
*Хай потым будзе*
*горыч страт і здрад —*
*Так хочацца*
*жыццё сваё змяніць!*
*У восеньскі*
*халодны лістапад*
*Апошні раз*
*душы сваёй зманіць,*
*Апошні раз*
*кагосьці пакахаць*
*(Адлічвае хвіліны*
*метраном).*
*Апошні раз*
*душу закалыхаць*
*Апошнім сном...*

## Зайздрасць

ТРЫПЦІХ

I

*Спісваючы кантрольную*
*у суседзяў то справа,*
*то злева,*
*вучань з апошняй парты*
*сумна глядзеў на настаўніка.*
*Вучань зайздросціў настаўніку —*
*як яму добра жывецца!*
*Не трэба пісаць кантрольныя,*
*не трэба зубрыць тэарэмы*
*і формулы незразумелыя*
*(няхай на іх ліхаманка!),*
*і ў бацькі не трэба грошай*
*клянчыць на кожную дробязь,*
*і слухаць штодня папрокі*
*за дзённік альбо за сшыткі,*
*і можна гуляць*
*дзе хочаш,*
*з кім хочаш,*
*і колькі хочаш,*
*бо ты —*
*чалавек дарослы*
*і сам*
*гаспадар свайго лёсу!..*

II

*Стоячы каля дошкі,*
*крэйду ў руках трымаючы,*
*настаўнік глядзеў на вучняў.*
*Настаўнік зайздросціў вучням —*
*як жа ім добра жывецца!*
*Ніякіх табе*
*праверак,*
*вымоў,*
*тэматычных планаў,*
*ніякіх грашовых клопатаў*
*(хай гэта бацькоў хвалюе);*
*паўдня пасядзіш за партай*
*і можаш рабіць, што хочаш!*
*А тут*
*вавёркай круціся —*
*і тое,*
*і гэта трэба:*
*за газ заплаціць,*
*за кватэру,*
*суседзям аддаць пазыку,*
*і жонцы патрэбны боцікі,*
*і дзеці з адзення выраслі,*
*а грошай так не хапае!*
*І мары юнацкія —*
*дзе ж яны?!*
*Нічога з іх*
*не збылося!*
*Жыццё —*
*паўсядзённы клопат,*
*Наперадзе ж —*
*толькі старасць...*

III

*Галодны*
*аблезлы сабака*
*ляжаў*
*ля мокрага плоту,*
*лізаў*
*перабітую лапу,*
*глядзеў*
*на школьныя вокны*
*І моўчкі*
*зайздросціў людзям:*
*Як жа ім добра жывецца!*

Таццяна БАРЫСЮК



# Містыка існавання

## Палёт душы

*Калі я, стомленая, буду спаць,*
*Душа Край Памяці аблётае да рання.*
*Падумайце, як страшна ёй лятаць*
*Над папялішчам Першага Кахання!..*

•

*Калі душу апаліць жарсць*
*На злосць былой адчайнай сцюжы,*
*Крапеццa сэрца благадаць —*
*Крышталь слязы блакітнай ружы.*

*Фантомы слоў губляюць важкасць*
*У вабнай бездані вачэй.*
*Міраж лятункаў сэрца засціць*
*І явы сімвалы ярчэй.*

*Прывіды страчаных ілюзій*
*Віюцца ў небе кажанамі.*
*Магчыма, болей мы не будзем*
*Узгадваць, што было між намі...*

•

*Сэрца ў чарапахавым панцыры,*
*Пярліны вачэй — у ракушках.*
*Клюшнямі змагаюся з шанцамі —*
*Спакусамі ў вабных стужках.*

*Дрэва маёй самоты*
*Точыць адчаю шашаль.*
*Стой, незнаёмец, хто ты?*
*Прышэлец са сноў, няйначай...*

•

Жыццё гэта сон.
КАЛЬДЭРОН

*Жыццё — нібы прарочы сон,*
*А смерць як быццам абуджэнне.*
*Жахлівы суд — мой прышлы скон.*
*Хімеры мары-летуценні.*

*Памылак жах сціскае крылы,*
*Прывіды душаць па начах.*
*Крывавы крыж на небасхіле*
*І боль маланкавы ў вачах...*

•

*Каханне. Фобія. Манія.*
*Вар'яцтва. Блуканне.*
*Люстэркаў галерэя.*
*Надзея без надзеі — я.*

*Сама ў сабе,*
*як сэнс у форме.*
*У норме і не ў норме.*
*Шукаю. Філасофствую. Баюся,*
*Што некалі ў люстэрку не з'яўлюся...*

•

*З аскепкаў не складу вітраж,*
*Люстэрка б'ецца на няшчасце.*
*Чаму ж мінулага міраж*
*Залевай вочы мае засціць?*

*І сэрца гімн не шле вясне,*
*Не спараджае летуценняў.*
*Што зробіш, бо цяпер мяне*
*Натхняе змрочны чорны геній.*

*Як паўцякаюць з лёсу відмы*
*Маёй світальнаю парой,*
*Суквецце мараў стане німбам*
*Над галавой.*

## Акраэлегія

*Адлегласць душ народзіць смутак,*
*Дыханне дам хімерам-ценям.*

*Філосаф і філолаг скуты*
*І суіснуюць непадзельна.*
*Лавіруе-віруе сэрца,*
*Але чамусьці так самотна!*
*Лядок лятункаў дакранецца,*
*Атруту — Ці! — падасць маркота.*
*Гармоній недасяжнасць — Позна! —*
*Ірве істоту на шматочкі.*
*Надрыўна плачуць вербалозы*
*І сны мне шле Касандра-ночка.*

•

*паэт*
*на касмічныя рытмы*
*накладвае словы,*
*якія пасля*
*збываюцца...*

ПРОЗА

# СЦЭНА

АПАВЯДАННЕ

Уладзімір МІХНО



Алег прыходзіць задоўга, мо за гадзіну да пачатку спектакля, моўчкі падае руку хлопцам-акцёрам, пачціва вітаецца з дзяўчатамі і хуценька займае сваё звыклае месца ў зале — першае ў другім радзе. Сядзіць ён таксама моўчкі, здавалася б, безуважна, абыякава пазірае на сцэну, дзе чорны колер дэкарацый стварае прастору і перспектыву. Вунь яны, удалечыні, выразаныя з поліэтылену, вокны ўяўных дамоў уяўнага горада. Што за тымі вокнамі? Глухая сцяна і — рэальны камунгасаўскі задворак з грамадскімі, прабачце, прыбіральнямі ды параскіданымі ветрам кавалкамі скарыстанай паперы. "Сюда не зарастет народная тропа!..". Не, не трэба так цынічна! Навошта? І ўвогуле, натуралізму хапае і ў жыцці. А тут, на сцэне — тут павінна быць казка. І таму за вокнамі шматпавярховікаў недзе хаваецца іншы горад і зусім іншы свет. І жыхары таго свету глядзяць на нас, людзей, звысака, як бы са столі, то спачувальна глядзяць, то здзекліва і, шчыра скажам, не зусім пачціва...

Чорны колер падабаецца Ларысе Васільеўне. Ды Алег і не супраць: ёй, рэжысёру, вядома ж, лепей ведаць. Наадварот, Алег вельмі ўдзячны Ларысе, што ўзялася паставіць яго п'есу, ён проста шчаслівы. А магла ж і не згадзіцца. Во табе драматург мясцовага пасеву, стварыў сваіх чарцей паласатых і зараз носіцца з імі, як кот са здохлай мышшу.

На сцэне пакуль яшчэ няма ніводнае жывое душы. Гнятліва чакае падлеткаў імправізаваны шэры падвал, таямніча і рамантычна звісае павуціна, сплеценая з канатных вяровак. А Павук пакуль яшчэ лускае семкі на галёрцы ў пустой паўцёмнай зале разам з іншымі акцёрамі. Семкамі хлопцы, мусіць, праганяюць сваё хваляванне... І ўвогуле, чаго яны кожны раз перад спектаклем тусуюцца на галёрцы? Яшчэ адна тэатральная таямніца? І запытацца няма ў каго. Ларыса, напэўна, ведае, але ж яна пабегла шукаць новы мікрафон, бо іхні перад самым спектаклем забралі на іншае, больш важнае мерапрыемства. Божа мой, колькі ж Ларыса пабегала, пакуль паставіла гэты спектакль! То павуціну не было каму да столі прымацаваць, то адбіралі стаўкі ў яе сумежнікаў, адказных за музыку, за пластыку, то ўрэшце не знаходзілася каму прыбраць у зале, і дзеці самі падмяталі, мылі сцэну. Нікому нічога непатрэбна. Патрэбна толькі ёй, Ларысе, і дзецям. Напэўна, Ларыса Васільеўна паставіла свой апошні спектакль, бо працаваць у такіх умовах болей няма ні сіл, ні нерваў. А прафесійныя акцёры ўвогуле адмовіліся б выходзіць на такую вось непрыстасаваную сцэну. Але ж дзеці... Яны тут выраслі. Алег іх помніць яшчэ маленькімі, калі ставілі на сцэне казачкі і плакалі, шкадуючы персанажаў, якіх самі ж ігралі. Дзеці выраслі — ён нават і не заўважыў. Чужыя дзеці хутка растуць... Вырас калектыў, абараніўся, стаўшы ўзорным, здавалася б, набыў аўтарытэт і крэдыт давер'я. Каб жа! Ларыса вунь сама пабегла па мікрафон, як быццам болей няма каму. Дык і няма. Няўжо нашаму маленькаму гораду непатрэбны такія вось таленавітыя дзіцячыя калектывы? Самі ж заганяем падлеткаў у падвалы, а потым дзівімся... Выраслі з казак, узяліся за сур'ёзную, за дарослую тэму. Кожная сцэна, кожная роля забірала столькі душэўнай энергіі. Яны ж не прафесійныя акцёры. Яны ж дзеці, звычайныя падлеткі. Ларыса не выбірала. Талентамі і асобамі зрабіла іх вось гэта маленькая, лядашчая і цесная сцэна, самая значная, самая прасторная і вялікая ў іх жыцці. Але ж дзеці не валодаюць сцэнічнай тэхнікай, і таму кожную ролю, кожны вобраз павінны прапусціць праз сябе, перш чым сыграць на сцэне. Юныя акцёры павінны перахварэць сцэнічнай хваробаю, а рэжысёр незаўважна, паступова з кожным новым спектаклем добраахвотна спальвае сябе на алтары. Не верыце? Алег і сам не верыў, пакуль не пазнаёміўся з Ларысай.

Ларыса мадзела і чэзла, пасля рэпетыцый у яе моцна балела галава і адмаўляліся глядзець вочы, але дзеці аб гэтым не павінны былі ведаць і, напэўна, не ведалі. Яна неўпрыкмет аддавала ім сваю энергію, і дзеці мужнелі, распраўлялі крылы, станавіліся гаспадарамі на сцэне. Маленькую сцэну яны прапоўзалі на жыватах і на локцях, пралічылі кожны метр. Трэба сыграць так, каб не зачапіцца, не пабурыць дэкарацыі, трэба навучыцца так падаць, каб гэта выглядала натуральна і не было сінякоў. Цэлая навука... На сцэне падлеткі адчувалі сябе гаспадарамі, як той папяровы змей у палёце: крыху любаваліся сабою, радаваліся прастору фантазіі і вольнаму палёту і не здагадваліся, што кожны з іх прывязаны непрыкметнаю нітачкай, цененькай і празрыстай, але ж трывалай. І ўсе гэтыя ніці ўладарна і моцна трымае, сціскае ў жмені рэжысёр. Ларыса Васільеўна ўсміхаецца, бо не мае права не ўсміхацца, чаго б гэта ёй ні каштавала — такі яе сцэнічны лёс...

А тут, як на бяду, унадзіўся хадзіць да іх на рэпетыцыі дырэктар. Алег нават сам не бываў на рэпетыцыях, баяўся перашкодзіць. Яны ўвогуле з Ларысай людзі прымхлівыя: калі ўжо сеў на першае крэсла ў другім радзе, то і бульдозерам адсюль яго не зганіш. А рэпетыцыя — гэта ж святое, адказнасць, можа, нават большая, чым на самім спектаклі. Але ж дырэктар не здагадваўся, што такое сцэна, напэўна, ён думаў, што ўсё на свеце множыцца на лічбы, дзеліцца на гадзіны і вымяраецца ў рублях. Ён так думаў, і таму вырашыў сыграць на сцэне сваю незайздросную ролю, нават не падазраючы, што іграе камедыю. Дырэктар вырашыў заняцца ўлікам і кантролем, як быццам мастацтва паддаецца ўліку. Ён прыходзіў, садзіўся ў куце, раскрываў свой блакнот ці журнал і... пачынаў лічыць акцёраў, падлічыўшы, акуратна заносіў свае каштоўныя назіранні ў журнал. У той час яшчэ не рабілі прагонак, а рэпеціравалі толькі асобныя эпізоды. Збіраць увесь калектыў не было патрэбы, і Ларыса не збірала, прызначала індывідуальныя заняткі. Дырэктар быў тут навічком, ён не ведаў законаў тэатра і жыў па сваіх наменклатурных законах. Па-добраму, яму варта было мо паспачуваць, бо колькі ж пакутуе на свеце шэрага і безаблічнага народу. Але ж дзеці — яны не ўмеюць спачуваць шэрасці. Дзеці ўвогуле бачаць свет шматколерным. Напачатку шэры дзядзечка з бурачковым тварам іх проста забаўляў. Было прыкольна назіраць, як важна ён надзьмуўшы шчокі, вылуплівае вочы, ці то стараючыся падкрэсліць сваю значнасць, ці то збіраючыся некуды ўзляцець. Аднак ён так, на жаль, і не ўзляцеў, затое пачаў раздражняць дзяцей. Ларыса бачыла, як дзеці нерваваліся, пераключалі ўвагу і — апускалі крылы, рэпетыцыі ішлі кату пад хвост. Ларыса спачатку старалася ўзяць сябе ў рукі і не зважаць, адно баялася: не вытрываюць дзеці, сарвуцца, чаго добрага абсвішчуць дырэктара. Што ёй тады рабіць, якую займаць пазіцыю? Але той не здаваўся, мусіць, ён нешта паскуднае задумаў, бо заўсёды недалюбліваў рэжысёра і яе калектыў. На кожнай рэпетыцыі паяўляўся зноў. Што і каму ён хацеў даказаць, ці ведаў хоць сам? І аднойчы Ларыса не стрывала.

— Што вам, даруйце, трэба? — запыталася як магла на той час далікатней, бо пры дзецях.

Дзеці наставілі вушы і прыціхлі — яны навучыліся разумець рэжысёра з паўслова. А дырэктар, надзьмуўшыся яшчэ болей, стаў нявцямна бубнець, што гурток кепска працуе, дзеці слаба наведваюць заняткі і ўвогуле... Ларыса не даслухала, што "ўвогуле", рэзка абарвала:

— Прабачце, у нас рэпетыцыя, просьба не перашкаджаць, пагаворым апасля.

Шчуплая, маленькая, яна ўладарна выпхнула дзябёлага, здаравеннага дырэктара за дзверы. Хацелася параіць яму аднесці свой уліковы журнал па прызначэнні, у тое самае грамадскае месца, дзе параскіданы былі падобныя паперкі. Балазе, гэтае месца было зусім побач. Хацела параіць, але — перадумала. Яна зноў жа спалохалася за дзяцей. Бо нельга ж было ёй так нізка апускацца ў іх вачах.

Дзеці... Чужыя дзеці, яны і сапраўды выраслі хутка і незаўважна. Ларыса іх клапатліва расціла тут дзесяць гадоў, а ён, Алег, прыкра прызнацца, нават дагэтуль блытае іхнія імёны. Падумаць! Яны далі жыццё яго п'есе, з гэтага часу сваіх літаратурных герояў ён будзе ўяўляць у абліччы гэтых падлеткаў, а — блытае іх, быццам сіямскіх блізнят. Непрыгожа! Сорамна! Але чаму, чаму так атрымалася? Ён, Алег, які ахвяраваў сваім жыццёвым лёсам, аддаўшы яго на расправу падлеткам; які, забыўшыся зірнуць у люстэрка, залічыў сябе ў вечныя юнакі і тым самым вынес сабе прысуд; які займеў паўгорада шаснаццацігадовых сяброў і дня не пражыве, каб не пазнаёміцца з новым падлеткам, — ён раптам спалохаўся і зніякавеў перад гэтымі во тэатраламі. Смешна казаць, але ўявіў, што не ён, а, наадварот, яны дарослыя. Але ж не кожны дарослы будзе валаводзіцца з дзецьмі. Хіба вось такія дзівакі, як яны з Ларысай. Ён па-добраму Ларысе зайздросціць: яна нікога не баіцца, яна нікому не змоўчыць і, тым болей, не дазволіць пакрыўдзіць сваіх дзяцей, якіх выхавала па сваім вобразе і падабенстве. Гэтым падлеткам пашанцавала — у іх жыцці ёсць СЦЭНА. А ў яго сяброў, у звычайных падлеткаў, няма такога тэатральнага падмостка, на які б яны імкнуліся ўзабрацца. Яны жывуць адным днём, і часцей спускаюцца ўніз, чым падымаюцца ўвышкі. Алег таксама не здолеў, не змог прапанаваць ім нешта лепшае. Але ж ён і не акцёр, і, тым болей, не рэжысёр, не ўмее мадуляваць жыццёвыя сцэнарыі, ён проста жыве. Цікава, а што ж яны, тэатралы, смеючыся і лускаючы семкі, думаюць зараз пра яго? Адзіны пакуль глядач у пустой зале... Ясна, што думаюць: дзівак! У лепшым выпадку. А мо і ўвогуле такі чокнуты? Паглядзіся, дзядзька, у люстэрка ды перастань смяшыць дзяцей. Закінь на печ свае джынсы, красоўкі, апрані чаравікі і строгі чорны касцюм, гальштук завяжы — і мы паверым, што ў цябе ўсе дома.

Ларыса прыйшла. Мікрафона няма. Ларыса сама заміж мікрафона: злоснагулкая і якаясьці ўрачыста-афіцыйная:

— Так, дзеці, будзем без мікрафона сёння працаваць. Факіру давядзецца крыху ўзяць на пуп.

— А як жа?.. — спрабуе раскрыць рот Валік і тут жа атрымоўвае шпунта.

— Крычы, дзетка, колькі сілы. Нічога, не надарвешся. Глядач не вінаваты, што ў нас сёння забралі мікрафон, і ён ні аб чым не павінен здагадвацца. Дарэчы, Валера, як твая нага?Уяўляеш, Алег, сёння наш Чабоха па дарозе на спектакль звіхнуў нагу.

— З чым я вас і віншую! — Алег адразу ж засмуціўся і ў душы нават запанікаваў. Панікёр ён страшны. — Дык што цяпер Валера будзе рабіць на спектаклі?

— Працаваць, вядома ж. А нагу мы яму моцна забінтавалі.

— Не магу, Ларыса Васільеўна, прыступаць, — Валера апанурыўся не меней, чым Алег. Ён спрабуе спусціцца з лесвіцы ў імправізаваны падвал, але выгляд у яго — як у чарапашкі Ніндзя.

— Ну і мужыкі пайшлі, — пачынае злавацца Ларыса. — Хадзі, хлопчык, хадзі, не смяртэльна. Толькі ні ў якім разе не сядай. Расцяжэнне — у каго не бывае! На спектаклі ты будзеш хадзіць, не кульгаючы, — яна пераконвае не столькі Чабоху, колькі, напэўна, сябе самую, а таксама Алега.

— І ты хочаш, каб ён сёння па той лесвіцы панёс Алёну? — асцярожна пытаецца Алег, зірнуўшы на Ларысу, як на хворую.

— Не проста хачу, я ўпэўнена, што так яно і будзе.

— Ты звар'яцела! Няўжо нельга ўсё гэта абыграць? Няхай на спектаклі скажа: вось жа, ёлы палы, нагу звіхнуў — і кульгае потым на здароўе.

— Вось жа і нічога ты не петрыш у рэжысуры. Што значыць — сказаць? Ды ён табе так скажа! Абыграць трэба. Трэба на сцэне сапраўды звіхнуць нагу. Ты ўяўляеш, што з гэтага можа атрымацца?..

— Добра, але як ён панясе дзяўчыну?

— Моўчкі! І вось што: не шкадуй маіх дзяцей. Я... я іх сама шкадую. Проста я ведаю, што магчыма, а што не. Не адмяняць жа спектакль, позна ўжо, глядач запрошаны... І ўвогуле, дзеці, ёсць толькі адна прычына, па якой акцёр мае права не з'явіцца на сцэне. Цьфу-цьфу-цьфу... А, дарэчы, я ж табе, Алег, яшчэ не ўсё сказала. Сюрпрыз...

— "Сюрпрыз"? Прызнацца, я апошнім часам так баюся акурат сюрпрызаў..." — Алег усміхнуўся, падкінуўшы рэпліку са сваёй п'есы.

— Рана ўсміхаешся. Мухі, Алежак, не будзе сёння.

— Што-о?!

— Нічога. Захварэла наша Надзейка. Учора збегала на дыскатэку, і сёння ў яе — ангіна. Я яе ледзь не забіла. Кажу заўсёды: не бегайце голыя, глядзіце пад ногі, не чапляйцеся, не набівайце гузоў, помніце — ідуць спектаклі. Калі ўжо выпаў падняцца на сцэну, выкіньце вецер з галавы. Сцэна не даруе легкадумства. Каму кажу, сабе ці сцяне?!. Карацей, маці Муху не пусціла...

— І ты не адмяніла спектакль? Ты ўяўляеш, што будзе?..

— А нічога не будзе. Незамянімых людзей не бывае ўвогуле. Шэры з Павуком абыграюць мушыную сцэну. Ніхто нічога нават не заўважыць, вось убачыш. А спектакль, паўтараю, позна ўжо было адмяняць. На тры хвіліны сёння ён будзе карацей. Не памром. Спадзяюся, аўтар таксама будзе не супраць?

— Аўтар то не супраць, — Алег, бадай, з замілаваннем глядзіць на гэтую мужную жанчыну. І не жанчыну, а зусім дзяўчыну яшчэ. Вялікую ўладарку гэтай маленькай, закінутай людзьмі і забытай Богам сцэны, якая і самой ёй дадае маладосці, рухавасці, энергіі душэўнай. Магутную гаспадыню загадкавай падлеткавай душы, адчайную і самаахвярную. — Але ж калі вы паспелі абыграць?

— Калі цябе не было. Цэлую гадзіну рэпеціравалі. Словы ж яны, у прынцыпе, ведаюць, бо тэкст ва ўсіх на слыху. Думаю, я магла б знайсці Мусе замену, але часу небагата, усё ж пабаялася, раптам той, хто на замене, забудзе тэкст. Так што няхай лепей Шэры з Павучком абыграюць гэты эпізод на сваіх ролях. Так будзе надзейней. І во яшчэ...

— Што, зноў сюрпрыз?

— Ну, — засмяялася Ларыса, — ты зірні, які ў нас сёння прыгожы Пашка, які ў яго вабны "ліхтар" пад вокам. Свеціць, як яснае сонейка.

— "А в остальном, прекрасная Маркиза..." Ну, гэтаму ў масоўцы якраз па ролі падыходзіць, — Алег рагоча ад душы.

— Пытаюся: якая ж, дзетка, цябе дзяўчына так хораша пацалавала? Божыцца, што са слупам не размінуўся.

— Таксама на дыскатэцы?

— Выступае ўзорная тэатральная студыя "Тры калекі". Прапануем вашай увазе спектакль "За язык прападаю", альбо па-іншаму: "Калі мухі здыхаюць?" — Шэры накінуў сваю бліскучую мантыю і са сцэны красамоўнічае. Сярожка, як заўсёды, у сваім рэпертуары.

— А Шэрага за доўгі язык мы будзем зараз падвешваць да лямпачкі, — адказвае Валік басам — Факір трэніруе голас.

А дзяўчатам часу няма балаболіць — мажуцца ў грымёрнай.

— Вова, адзень ты яму на галаву, ну, сам ведаеш, што. Той самы пакет, каторы будзеш са сцэны рэкламаваць. О, Ларыса Васільеўна, а дзе ж вы гэтага барадатага аўтара адкапалі?

— Многа будзеш ведаць, сэр, хутка і сам барадою абрасцеш, — усміхаецца Алег паблажліва. — Але табе, Шэры цень, барада якраз да твару.

Ён ведае: хлопцы жартуюць. А мо проста за жартамі хаваюць сваё хваляванне. Хаця і не прэм'ера, сёння проста чарговы спектакль, аднак усё ж нетыповы. Сёння іх чакае сапраўднае выпрабаванне на акцёрскую сталасць, бо змушаны адпрацаваць з экспромтам, а сцэна — яна не любіць экспромтаў. А мо так і лепей, цікавей, а то кожны раз па накатанай сцяжынцы?..

— Усё, хлопцы, хопіць мітынгаваць. Марш у грымёрную. Дзяўчаты вунь ужо даўно падрыхтаваліся, хутка прыйдзе глядач, а вы яшчэ не ў форме, — Ларыса на вачах спакайнее і нават пачынае ўсміхацца.

Так трэба. Інакш яе хваляванне перадасца акцёрам і — быць бядзе. Ларыса ідзе на галёрку, нешта кажа Вову, які ўжо даўно там: спакойна сядзіць, не ёўзае, не красамоўнічае, а — працуе. Роля ў яго такая,

*(Заканчэнне на стар. 12)*

цоўніцтва. Але ўсё ж без крытычных слоў наконт арганізацыі фестывалю не абышлося — і ўрэшце маладыя рэжысёры выступілі з прапановай да наступнай "Надзеі-2003" распрацаваць свой сцэнарый, дзе прадугледжваўся б, напрыклад, удзел аўтаномнага маладзёжнага журы... Дарэчы, у ліпені гэтага года на калегіі Міністэрства культуры была прынята адпаведная праграма, дзе асобным пунктам пазначана праца з творчай моладдзю.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ**

***Дыпламанты ІІ Рэспубліканскага фестывалю творчай тэатральнай моладзі "Надзея—2001":***

**У намінацыі "рэжысура" — Уладзімір Шчэрбань.**

**У намінацыі "сцэнаграфія" — Вольга Разумава.**

**У намінацыі "акцёрскае майстэрства" — Наталля Кот, Галіна Лабанок, Ірына Яцук, Віялета Сарбірава, Юлія Палубінская, Ала Паплаўская, Аксана Плікус, Вольга Шанцына, Святлана Анікей, Ганна Хітрык, Вольга Кашынская, Дзмітрый Якубовіч, Ігар Падлівальчаў, Ілля Чарапко, Андрэй Кізіно, Алег Рыхтэр, Мікалай Сцешыц, Васіль Прабадзяк, Кірыл Андронаў, Кастусь Міхаленка, Андрэй Гладкі, Аляксандр Андрыенка, Арцём Бародзіч.**

*Лаўрэаты фестывалю:*

**У намінацыі "літаратурна-мастацкая крытыка" — Таццяна Команава.**

**У намінацыі "аўтарскае выкананне" — Аляксандр Баль.**

**У намінацыі "лепшая мужчынская роля" — Аляксандр Малчанаў (Марка ў спектаклі "Трышчан ды Іжота" на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы і спадар Мэдэн у спектаклі "Больш, чым дождж"),**

**Іван Дабрук (ролі Алены , Флейты і Фісбы ў спектаклі "Сон у летнюю ноч" Гродзенскага абласнога тэатра лялек).**

**У намінацыі "лепшая жаночая роля" — Святлана Зелянкоўская (Барбара ў "Чорнай панне Нясвіжа" купалаўскага тэатра),**

**Ілона Казакевіч (галоўная роля ў дыпломным спектаклі БелАМ),**

**Ніна Сяўніцкая (Ранеўская ў спектаклі "З Парыжам скончана!.." на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек),**

**Ганна Сцепанец (ролі Боны, Жыцця і Смерці ў спектаклі "Ладдзя роспачы" ў Беларускім тэатры "Лялька").**

**У намінацыі "рэжысура" — Наталля Башава (спектакль "Сястра мая, Русалачка" на сцэне Рэспубліканскага ТЮГа),**

**Павел Адамчыкаў (спектакль "Больш, чым дождж").**

**У намінацыі "сцэнаграфія" — Дар`я Волкава, Алеся Снапок, Таццяна Мацэвіч.**

**Лепшы спектакль-антрэпрыза Беларускага фонду развіцця культуры "Больш, чым дождж".**

**Віншуем!**

# Вяртанне з забыцця

У ціхіх Карэлічах адбылася падзея не мясцовага, а агульнабеларускага значэння — пасля працяглага забыцця вярнулася на родную зямлю імя, а ў пэўным сэнсе і творчая спадчына мастака Валянціна Рамановіча. Цікаўнага чытача адразу ж перасцерагу: не шукайце гэтае прозвішча ў энцыклапедычных выданнях як агульнага, так і адмыслова мастацкага накірунку. Адзіная беларускамоўная кніга, дзе ёсць сціслы артыкул-персаналія пра творцу, — даведнік Аляксея Пяткевіча "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Выдадзены ён яшчэ на пачатку 2000 года. На жаль, унікальнае грунтоўнае выданне, якое запатрабавала ад аўтара шчырай працы на працягу дваццаці гадоў, дасюль у рэспубліканскім друку паналежнаму не ацэнена. З дарчым надпісам аўтара трапіла яно ў Карэліцкі краязнаўчы музей і саслужыла добрую службу ў пошуках і вяртанні іх земляка.

Узялася адшукаць звесткі пра яго навуковы супрацоўнік музея Святлана Кошур — чалавек рамантычна-паэтычны і творчы. Спадарыня Святлана пайшла шляхам пошуку сваякоў мастака, выявіўшы пры гэтым, як яны самі адзначалі, проста выключныя дэтэктыўныя здольнасці. Ёй пашанцавала натрапіць на людзей сапраўды адухоўленых і шчыра зацікаўленых у вяртанні на радзіму імя і творчасці свайго родзіча.

На адкрыццё выставы з Вільнюса прыехалі пляменнікі, сыны адзінай сястры Валянціна Рамановіча Алены — Павел і Аляксей Багдановічы. Абодва па спецыяльнасці фізікі, прытым не шараговыя — Аляксей Алегавіч працуе выкладчыкам у Вільнюскім тэхналагічным універсітэце, а Павел Алегавіч, доктар навук, прафесар, у Нацыянальнай акадэміі навук. Прысутнічала таксама ўнучатая пляменніца Наталля Аляксееўна Ясінскене — юрыст па адукацыі. На жаль, гады не дазволілі прыехаць сюды шаноўнай пані Альдоне Рамановіч, якая ўвесь пасляваенны час пражыла ў Польшчы. Пазнаёмілася яна з Валянцінам Рамановічам, калі вучылася на адным курсе мастацкага факультэта універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні. Тады ж і пажаніліся. І хоць яна страціла каханага чалавека адразу ж пасля вызвалення Вільні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, аднак высокае пачуццё вернасці пранесла праз усё жыццё. Пра гэта прысутных адчул з ліста. атрыманага напярэдадні супрацоўнікамі Карэліцкага краязнаўчага музея. У ім — шчырае слова ўдзячнасці землякам, якія парупіліся пра вяртанне на радзіму спадчыны Валянціна Рамановіча, не проста душэўна роднаснага чалавека, а прафесіянала, што да нядаўняга працаваў мастаком-рэстаўратарам у Нацыянальным музеі мастацтваў у Варшаве.

Калі арыштавалі дзядзьку, старэйшаму пляменніку было пяць гадкоў. Уражлівая дзіцячая памяць захавала эпізоды з ваеннага часу, калі Валянцін Сцяпанавіч прыходзіў да іх, заўсёды з гасцінцам. А ўвогуле ён быў добры, чулы і спагадлівы чалавек. У палітыку імкнуўся не "лезці", аднак яна міжволі зрэдзьчас пра сябе нагадвала. Валянцін арганічна не ўспрымаў нацыянальнай пыхі, знявагі і здзеку над прадстаўнікамі любога народа. На мастацкім факультэце вучыліся палякі, беларусы, літоўцы, рускія, украінцы, яўрэі. І быў момант, калі апошнім прадстаўнікі пануючай у польскай дзяржаве нацыі пачалі наладжваць абструкцыю. Дайшло да таго, што ў аўдыторыях ім пачалі адводзіць асобныя месцы. І тады Валянцін са сваімі аднадумцамі ў знак пратэсту і салідарнасці паперасаджалі на "ганебныя" лавы.

Арышт мастака органамі НКУС, як сцвярджаюць сваякі, быў жахлівай недарэчнасцю. Хутчэй за ўсё, ён выпадкова трапіў пад "хапун" і быў зняволены ў турме. Паводле сведчанняў сяброў па няшчасці, якім удалося выжыць і выйсці на волю, у той нечалавечай сітуацыі ён быў шмат каму апірышчам. Не толькі як чалавек, але яшчэ і прафесійны лекар, бо закончыў, апрача мастацкага, яшчэ і медычны факультэт. Але здароўе ў самога было не для сталінскіх турмаў. І нават невядома, ці памёр Валянцін Рамановіч сваёю смерцю, ці быў закатаваны альбо расстраляны без суда і следства, проста па разнарадцы, дзеля масавасці. Хутчэй за ўсё, так і атрымалася, бо родным нават не паведамілі ні пра смерць, ні пра месца апошняга прыстанку на зямлі...

У згаданым даведніку А. Пяткевіча "Людзі культуры з Гродзеншчыны" паведамляецца, што Рамановіч Валянцін Сцяпанавіч нарадзіўся 20 кастрычніка 1911 года ў мястэчку Карэлічы. Падчас урачыстасцяў я пацікавіўся, адкуль родам бацькі мастака і пачуў нечаканае прыемны і для сябе, і для прысутнага тут жывапісца Кастуся Качана адказ, што Рамановічаў род паходзіць з вёскі Падкасоўе цяперашняга Навагрудскага раёна. Вёска тая, калі ехаць з Карэлічаў праз Шчорсы ў Навагрудак, стаіць на паўдарозе паміж Кастусёвым Лаўрышавам і маім Пабрэззем. Менавіта тут і нарадзіўся бацька сёлетняга юбіляра ў шматдзетнай і незаможнай сям'і. Аднак у хлопца вельмі рана выявіліся здольнасці да навукі. Трэба аддаць належнае нашым далёкім продкам, простым вясковым людзям, якія зрабілі ўсё ад іх залежнае, каб сын не толькі скончыў царкоўнапрыходскую школу ў родным Падкасоўі, але і гімназію ў Навагрудку, а напрэшце Віленскі універсітэт. Вывучыўся сын не абы на каго, а на настаўніка, якога тады паважалі не менш, чым суддзю і святара. Крыху папрацаваў у родным Падкасоўі, а потым, на вучобе ў Вільні, жаніўся з нетутэйшаю дзяўчынаю з роду славутых рускіх іканапісцаў Зотавых. І зусім верагодна, што ранняя прага іх сына Валянціна да мастацтва якраз і абудзілася як покліч генаў па мацярынскай лініі. Маляваць і выстаўляцца Валянцін пачаў яшчэ ў Навагрудскай гімназіі, якую закончыў у 1930 годзе, а мастацкі факультэт Віленскага універсітэта ў 1934. Браў удзел у выставах у Вільні, Варшаве і Чыкага. Таму пэўнай загадкай з'яўляецца яго рашэнне дадаткова набыць прафесію лекара і вучыцца на медычным факультэце гэтага ж універсітэта.

Як мастак Валянцін Рамановіч выявіў сябе ў дзвюх іпастасях: жывапісца, які пісаў карціны, пераважна пейзажы алейнымі фарбамі, і графіка, што найахвотней працаваў у складанай тэхніцы медзярыту. Каб чытач меў уяўленне пра зробленае ім, дазволю сабе цытату са згаданага даведніка "Людзі культуры з Гродзеншчыны".

"Ранняя работы (з пачатку 30-х) — "Сярэбраная рака", "Звозяць лёд", "Зіма", "Сосны", "Жоўтая рака". З сярэдзіны 30-х падарожнічаў па Польшчы, Заходняй Беларусі, пісаў архітэктурныя краявіды ("Вежа замка ў Троках", "Рыцарская зала", "Фрагмент нясвіжскіх пакояў", "Віленская сінагога"). Адначасова працаваў як графік ("Святы Ян Хрысціцель", "Касцёл святога Пятра і Паўла на Антокалі"). Стварыў графічныя цыклы: "Трокі" (32 гравюры па медзі), "Дрэвы" (6 кампазіцый, гравіраваных на розных матэрыялах). Пазней выканаў графічныя работы "Руіны замка ў Троках" (1939), "Вежа Ковенскага замка" (1940), "Стэфан Баторы" (1942), "Пабернардынскія муры" (1942), "Казіміраўскі завулак пасля бамбардзіроўкі" (1944).

Няма сумнення, што да пераліччанага Аляксеем Пяткевічам з часам дадасца новае, выяўленае і ў музеях, і ў асабістым захаванні — у сваякоў і калекцыянераў. Што казаць пра спадчыну гэтага мастака, калі ў Карэліцкім краязнаўчым музеі няма нават фрагмента славутых на ўвесь свет габеленаў, што калісь ткаліся ў тутэйшай мануфактуры. Выстаўлены толькі (а што маглі зрабіць большае супрацоўнікі музея!) шыкоўныя каляровыя фотаздымкі шэдэўра, які захоўваецца ў Львове. Не меншы, а мо і большы, бо ў адным асобніку, цуд, калі нават меркаваць па фотаздымках, уяўляе сабой шыкоўна аздобленае рукапіснае Евангелле, якое было створана і захоўвалася ў царкве ў вёсцы Жухавічы, што на абшары сённяшняга Карэліцкага раёна. А цяпер як агульнанацыянальная рэліквія магло б пад аховай знаходзіцца ў Карэліцкім краязнаўчым музеі. Дзвюх такіх праяў творчага генія тутэйшага люду было б дастаткова, каб уключыць Карэлічы ў турыстычны маршрут з Нясвіжа да Мірскага замка. Але ж сталася так, што за эсэсэраўскім часам сюды завіталі з адпаведнай паўнамоцнай паперай з Масквы супрацоўнікі Літоўскай акадэміі навук і нібыта на "законных" падставах забралі тое, што належала нам, беларусам...

Разважаеш над падобнымі фактамі і мяркуеш, няўжо ёсць у свеце яшчэ адзін такі народ, якога б так абадралі, як таго ліпку! І думаеш: няўжо няма ніякай справядлівасці, нельга без гвалту і войнаў паразумецца паміж суседзямі і не тое што цалкам павяртаць тое, што каму па праве стварэння належыць, а хоць бы падзяліцца, каб частка забранага ў народа, які на працягу стагоддзяў быў пазбаўлены дзяржаўнасці, а значыць, і быў абароненым, вярнулася сюды. Сказанае датычыць і творчасці Валянціна Рамановіча, якая асела ў Літве і Польшчы. Як зазначалі сваякі, у Торуні захаваліся дошкі, з якіх рабіліся адбіткі графічных прац мастака. Па сведчанні нашага выдатнага графіка Уладзіміра Басальгі, з іх, зусім верагодна, можна і цяпер рабіць якасныя адбіткі.

Сярод удзельнікаў урачыстасцяў ужо згадваліся імёны Уладзіміра Басальгі і Кастуся Качана. Апрача іх, з Мінска прыехаў яшчэ адзін творца, аўтар не толькі цікавых графічных прац, але і як выявілася па сёлетняй публікацыі ў часопісе "Полымя", арыгінальны паэт Рыгор Сітніца.

Для ўсіх нас убачанае і пачутае ў зале музея было адкрыццём. Не толькі асобы Валянціна Рамановіча, пра якога мы амаль нічога не ведалі, але і своеасаблівага мастацкага свету. Уладзімір Басальга, адзін з самых вядомых сучасных графікаў, аўтар выдатных гравюраў, на якіх адлюстраваны славутыя помнікі беларускага дойлідства, узнёсла і тонка "прачытаў" медзярыты Рамановіча, адзначаючы ўменне аўтара ў малым памеры ствараць гарманічны і завершаны паэтычны вобраз.

Кастусь Качан і Рыгор Сітніца засяродзіліся на жывапісе, які, зразумела, можа быць па-належнаму ацэнены толькі ў арыгінале, аднак і прадстаўленыя каляровыя ілюстрацыі даюць уяўленне пра мастака, што здольна валодаў кампазіцыяй і колерам.

Вывад і вынік імпрэзы такі: трэба зладзіць выставу Валянціна Рамановіча ў Мінску на больш высокім і прадстаўнічым узроўні. Дзеля гэтага неабходна праз беларускія пасольствы выйсці на ўлады Літвы і Польшчы з просьбай дазволіць вывезці ў Беларусь на выставу творы мастака ў арыгінале. А заадно і парупіцца, каб штосьці са спадчыны В. Рамановіча засталося на зямлі, якая яго нарадзіла.

**Яўген ЛЕЦКА**

но Умі" ("Мора вясной").

У другім аддзяленні гучалі творы японскіх кампазітараў 20 стагоддзя, а таксама апрацоўкі вядомай ва ўсім свеце класічнай музыкі: "Варыяцыі Гольдберга" І.С. Баха, "Летнія дні" Д. Гершвіна, "Танец з шаблямі" А. Хачатурана.

Цікава, што выканаўцы размежавалі музыку двух стылёва-часавых пластоў і візуальна: у першым аддзяленні яны выступалі ў традыцыйным нацыянальным адзенні — кімано, у другім — у еўрапейскіх касцюмах.

Міэко Міязакі парадавала нашу аўдыторыю не толькі выкананнем музычных твораў на інструменце кота, але і прыгожымі спевамі.

Увогуле, канцэрт прайшоў на "біс". Публіка была вельмі ўзрушаная і задаволеная — і цудоўнай музыкай, і прафесійным, на высокім мастацкім узроўні, выкананнем гасцей. Застаецца толькі пашкадаваць, што сустрэчы з японскай музыкай — вельмі рэдкая з'ява для беларускага слухача.

**Алена БАРЫСЮК,**
**студэнтка Беларускай**
**акадэміі музыкі**

# Непаўторны свет Класіка

У Рэспубліканскім цэнтры дзяцей і моладзі працуе выстаўка твораў вядомага мастака Уладзіміра Сулкоўскага. У экспазіцыі прадстаўлены дакументальна-мастацкі серыял "Радзіма Якуба Коласа", партрэты родных песняра; работы створаныя пад уражаннем шэдэўраў нацыянальнай класікі — паэмы "Новая зямля", аповесцяў "У палескай глушы", "У глыбі Палесся", вершаў са зборнікаў «Песні-жальбы», «Водгулле». Працуючы над некаторымі з іх, У. Сулкоўскі выкарыстоўваў архіўныя крыніцы — інвентарныя апісанні леснічовак Акінчыцы, Альбуць, Ласток, дзе давялося жыць Кастусю Міцкевічу і яго родным. Знайшлося месца і этнаграфічным экспанатам з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

На адкрыцці выстаўкі гучалі песні з родных Коласавых мясцін у выкананні народнага хору Навасвержанскага лесазавода і вакальнага трыо «Жывіца» Старасвержанскага дома культуры Стаўбцоўскага раёна. Са сваімі вершамі пазнаёміў прысутных вядомы пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Юнацтва» Алесь Камароўскі, а раздзел з паэмы «Новая зямля» прадэкламаваў супрацоўнік філіяла музея Я. Коласа ў Мікалаеўшчыне, унучаты пляменнік песняра Георгій Міцкевіч. З успамінамі і ўражаннямі пра мясціны маладосці свайго бацькі выступіў малодшы сын песняра доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч. З адкрыццём выстаўкі павіншавалі У.



Сулкоўскага і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, у прыватнасці, намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Басальга і дырэктар Літаратурна-мемарыяльнага музея Я. Коласа Зінаіда Камароўская.

У. Сулкоўскі падзяліўся творчымі планамі: ён працуе над серыяй работ, прысвечаных паэме «Сымон-музыка».

**Галіна ЗАЙЦАВА**

*Фота А. ФЕДАРЭНЧЫКА*

# Эцюды

Васіль ЗУЁНАК

## Як смерць, адзінокі радок...

Сімвал паэтычнай паралелі, даўні прадмет роздуму і даследчыкаў і чытачоў "Новай зямлі" Якуба Коласа: смерць воўка ў праломе лёду на рачным стрыжані, смерць, якую з душэўнай вусцішнасцю назірае Міхал, і перадсмяротнае трызненне самога Міхала, калі ён бачыць сябе ў вобліку таго ж зняможанага звера, што апошнімі намаганнямі спрабуе вырвацца з абдымкаў чорнай, невядомай сілы, за якой стаіць небыццё:

*...ён воўкам стаўся.*
*Бяжыць, як можа, — знаць спужаўся,*
*Ой, ой, — стрыжэнь!*
*Ён — гоп туды!*
*Ніяк не вылезе з вады.*
*Капут... Міхал-воўк прападае,*
*Пад лёдам знік, як мыш рудая,*
*А ўсё вакол глядзіць здзіўлёна.*
*І раптам нейкая заслона*
*Чыёюсь страшнаю рукою,*
*Сінь неба лучачы з зямлёю,*
*Ўсё пасуваецца бліжэй!*
*Міхалу робіцца цяжэй,*
*Ў грудзях дыханне забівае,*
*А ноч-заслона націскае,*

І зноў жа — пабачым яшчэ адзін, самотны, без рыфмы, радок:

*Глядзіць на жонку. — Ганна... Маці...*
*Ратунку дайце мне!.. О, браце!*
*Ратуй мяне! ратуйце, дзеткі!.. —*
*Сляза-палын балюча-едкі*
*На ўпалых вочах выступае...*
*Міхал зяхае — заціхае...*
*— Ой, свечку, свечку: ён канае! —*
*На твары след пякельнай мукі,*
*На грудзі палі яго рукі.*
*Міхал яшчэ раз здрыгануўся,*
*Яшчэ раз вочы расчыняе,*
*Глядзіць, бы штось прыпамінае... —*

вось ён — у атачэнні парных рыфмаў, ды яшчэ так настойліва паўтораных: "выступае — заціхае — канае" (тройчы! паперадзе) — пасля зноў: "расчыняе — прыпамінае", — вось ён, тут ужо як чужы, зеўрае сваёй, адасоблены ад усіх, адзінотай, асуджаны на чаканне водгуку іншага, адсутнага для нас:"Міхал яшчэ раз здрыгануўся..." — і прымушае і нас, жывых, нас, чытачоў, здрыгануцца ад гэтай сваёй смяротнай сілы...

О, колькі тоіцца яшчэ і як нечакана адкрываецца яно, тое, таемнае, скандэнсаванае ў вобразах Коласавай "Новай зямлі", — калі чытаеш і перачытваеш яе...

*І светлы круг, прамень пустыні,*
*Вось-вось у багне-цьме загіне... —*

малюнак, бязлітасны сваёй псіхалагічнай праўдзівасцю, так нагадвае відовішча, што паўстала калісьці перад вачыма Міхала:

*Яшчэ раз бедны воўк рвануўся,*
*На спіну раптам павярнуўся,*
*Завыў жалобна і каротка*
*І — шуг пад лёд той, як калодка!*
*І знікла ўсё: жыццё, змаганне*
*І прагавітасць палявання.*
*Міхал стаіць і разважае,*
*А потым галаву ўскідае,*
*Як бы ён хоча запытаць,*
*Хоць тут нікога не відаць:*
*"Ну, што ж ты скажаш,*
*брат, на гэта?"*

І вось на гэтым "Ну, што ты скажаш, брат, на гэта?" — на апошнім радку якраз і хочацца запыніць, засяродзіць увагу: ёсць падставы. Быццам "прыхаваныя", але — не абы-якія... Усяго радок, хоць сцэны — і адна, і другая — даюць столькі момантаў, "спажывы" для разваг і роздуму філасофскага кшталту... Жыццё і смерць... А што там, за ёю, той чорнай заслонай, якая насоўваецца, "сінь неба лучачы з зямлёю". І як гэта, здагадваемся, дакладна: толькі жывы чалавек свядомасцю сваёй "раз'ядноўвае", бачыць паасобку неба і зямлю, — а там, за мяжою зямнога быцця, яны зліваюцца ў адно цэлае, імя якому бясконцасць — і ў часе, і ў прасторы... І зноў жа — гэты пераход "мяжы" (пацверджаны неадназразова тымі, хто пабываў "па той бок", у стане клінічнай смерці, а потым вярнуўся...): спачатку знікае зямное святло, усё з белага, светлага, ператвараецца ў чорнае, цёмнае ("светлы круг, прамень пустыні, вось-вось у багне-цьме загіне"... — гэта ўжо, сапраўды, прамень у пустыні!..), а потым загараецца святло іншае, незямное, — неадольны паток святла: ён нясе, уцягвае, як у аэрадынамічную трубу... Куды? у які свет?.. — ніхто не можа адказаць з тых, хто пабываў ТАМ... — толькі сведчаць... Пра тое, з апошнім позіркам, прашаптала калісьці і мая мама: "Грубка... грубка чорная стала..." — а грубка зззяла ад белізны... Тагасветнымі адчуваннямі ўзрушваюць душу Коласавы радкі... А колькі адкрываецца чалавечым думкам і пачуццям у малюнку смерці воўка, якая прага жыцця — ужо, сапраўды, не звярыная, а чалавечая сваёй трагічнай асуджанасцю... Што раптам і абрываецца тым, замоўленым намі разам з Міхалам радком: "Ну, што ты скажаш, брат, на гэта?"

Абрываецца, бо і насамрэч мы нечакана "спатыкаемся" аб адзіноту радка, заўважаем, што ён, насуперак правілам паралельнай рыфмоўкі, абранай паэтам, не мае сабе "пары". І гэтай непрыкаянасцю сваёй, адчужанасцю радок гаворыць нам нашмат больш, чым, пэўна, сказаў бы словамі той, адсутны, не прамоўлены, радок. Ён гаворыць з намі маўчаннем, пустатой... Як смерць... Праўда, для Міхала пакуль што адной жывой істоты, толькі што жывой, — воўка... Пра іншае ў яго яшчэ і здагадкі няма. Але пытанне ўжо ёсць, яно прамоўлена, яно дыхае невядомасцю: "Ну, што ты скажаш, брат, на гэта?.." Адказ пабачым мы неўзабаве — у смерці Міхала.

## Камп'ютэр з душой васілька

Ён уваходзіў у сталае творчае жыццё — будзем пакуль што мець на ўвазе яго навуковыя штудыі і пошукі, — у той час, калі паэт Барыс Слуцкі ні то сцвярджаў, ні то пытаўся: "Что-то физики в почете. Что-то лирики в загоне..."

Дык вось — зробім цяпер карэкціроўку і, зноў жа "пакуль што", выкажам здагадку: гэты малады "тэхнар" да самых драбніц (асабліва паводле знешніх прыкметаў: абранай прафесіі, вучобы...) быў апантаны памкненнем стаць як бы жывой антытэзай тым словам паэта. Бо, сапраўды, як паказаў час, як сцвердзіў лёс, гэты "фізік" быў захоплены, а дакладней сказаць, душа гэтая была прасякнутая — да самых глыбіняў, да самых патаемных куточкаў — "лірыкай"...

Кажуць, што навукоўцы — у самых нават абстрактных сферах іх дзейнасці — перажываюць адчуванне эстэтычнай асалоды, штосьці блізкае паэтычнаму натхненню. Кожнае навуковае адкрыццё суправаджаецца высокай радасцю творчасці...

Пра гэта гаварыў мне аднойчы і наш славуты беларускі матэматык акадэмік Уладзімір Платонаў. Нагадаю: ён пачуваўся сапраўдным следапытам у лабірынтах алгебраічных праблем, рашаў задачы, што не паддаваліся атакам не аднаго матэматычнага "генерала". Творчае азарэнне спадарожнічала Уладзіміру Платонаву. На маё пытанне, у чым сэнс тых праблем, як перакласці іх рашэнне, хоць прыблізна, схематычна, на мову, даступную чалавеку далёкаму ад матэматыкі, Уладзімір Пятровіч толькі спагадліва ўсміхнуўся: на жаль, вось гэтая задача якраз і не вырашальная: не ўсім матэматыкам, бадай, адкрыецца сутнасць рашэння... А паэзіі ў прыгажосці формул — для дасведчаных — не менш, чым у вершах самай высокай пробы...

Чалавеку, дзеянаму ў гэтай сферы, нельга не паверыць. Але ўсё ж, думаецца, "матэматычнае натхненне" чымсьці розніцца ад "паэтычнага", — дужа ж яны далёкія па сваіх вытоках, па генетычных каранях... Яно, канечне, няма "неадольнай" мяжы паміж правым і левым паўшар'ямі мозга, "адказнымі" кожны за сваю сферу разумовай дзейнасці — эмацыянальную і лагічную. Ды толькі факт, як кажуць, застаецца фактам: не кожны матэматык — паэт, як не кожны паэт — матэматык. Хутчэй наадварот...

І тым большае выклікаюць захапленне праявы чалавечага духу, якому даступныя адразу два гэтыя сусветы інтэлектуальнай дзейнасці.

З такім "выключэннем" мы маем справу і ў нашым выпадку. І ўжо неяк міжволі "здагадка" наша перарастае ў загадку: як мог адзін чалавек, гэты самы "тэхнар" здзейсніць такую аб'ёмную працу, зусім іншай, здавалася б, душэўнай, настраёвай арыентацыі. Вось: "Антология белорусской лирики XIX—XX веков. Составление и перевод с белорусского Геннадия Римского..." — важкі том, скажам так: у фірмовым — класічна-простым, сціплым, дакладным паліграфічна-мастацкім афармленні "Беларускага кнігазбору". А перад гэтым — быў як бы томік-разведчык, плён супрацоўніцтва аўтара з маскоўскім выдавецтвам "Русский двор". Там жа мае пабачыць свет і двухтомнае выданне беларускай паэзіі ў перакладах Генадзя Рымскага. Дай жа, Божа, здзяйснення гэтай задуме творцы, — як паэтычнага манумента над яго заўчаснай магілай...

Калі ў тым, "разведным", томіку загаварылі з рускамоўным чытачом 59 аўтараў, дык ужо ў "кнігазбораўскім" томе іх кола пашырылася, вырасла аж ад 135, — ад Яна Чачота і Яна Баршчэўскага да Сыса... — не "Анатоля", а "Сяргея"... А паміж гэтымі адзнакамі — і асабовымі, і часавымі — сустрэнем "між імён, праслаўленых на свет", і такія: Ігнат Канчэўскі, Уладзімір Дудзіцкі, Сяргей Крывец...

Словам, праца прароблена, паўторым, аб'ёмная і — карпатлівая. Праца не аднаго года. Праца, якую "між іншым" не зробіш, — калі залічыць у "міжіншае": "Сістэмы пераўтварэння шматканальнай графічнай інфармацыі ў электрычныя сігналы", "Аўтаматызацыя даследаванняў дынамічных сістэм", "Каранёвыя метады даследавання інтэрвальных сістэм", — толькі некаторыя з манаграфій Генадзя Рымскага; а яшчэ — доктарская дысертацыя на тэму "Агульная тэорыя каранёвых траекторый і аўтаматызацыя даследаванняў сістэм кіравання на яе аснове"; а яшчэ — 31 аўтарскае пасведчанне на вынаходствы новых прылад і сістэм, на некаторыя з якіх былі выдадзены патэнты найбольш развітых краін свету: ЗША, Англіі, Францыі, Італіі, Японіі...

Такое яно — "між іншым" па-Рымскаму!...

Член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па спецыяльнасці "тэхнічная кібернетыка" — і паэзія: такая амплітуда, такі творчы дыяпазон Генадзя Рымскага...

Застаецца толькі здзіўляцца: калі паспяваў чалавек?!

І тут напрошваецца другая здагадка: гэты цуд рабіла не толькі праца, але і любоў, — любоў як да абстрактнага матэматычнага сімвала, так і да сімвала канкрэтнага — жывога, трапяткога вобраза, выяўленага ў слове. А слова гэта было наша, беларускае, бо прыходзіла да Генадзя Рымскага з беларускай паэзіяй. І, можа, не ў апошнюю чаргу, дзякуючы ёй, Генадзь Васільевіч, рускі па паходжанні, так зблізіўся, зросся з Беларуссю — складам характару, шчырай адданасцю яе народу, яго духоўнасці. У адным са сваіх арыгінальных вершаў ён прызнаваўся:

*Я люблю тебя, Беларусь...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Моя радость, и боль, и грусть,*
*Мой восторг и мое страданье...*

У 1946 годзе дзесяцігадовым хлапчуком Генадзь стаў мінчанінам, калі бацька ягоны (да вайны — інжынер Сталінградскага трактарнага, а ў вайну — абароннага завода ў Свярдлоўску) быў прызначаны намеснікам галоўнага тэхнолага Мінскага трактарнага завода. З той пары Беларусь стала радзімай Генадзя Рымскага... І ў школе (11-я мінская), і ў Вышэйшым ваенна-марскім інжынерным радыётэхнічным вучылішчы ў Гатчыне, побач з асноўным, чым жыў тады, — вучобай, юнак з захапленнем аддаваўся паэзіі. Чытаў сам, чытаў сябрам-курсантам. І асабліва — беларускіх паэтаў, бо лічыў: тут ёсць яму чым пахваліцца. Гэта ж падказала яму і яшчэ адзін спосаб данесці да не-беларусаў прыгажосць і мудрасць беларускай паэзіі: ён пачаў перакладаць яе на рускую мову. Творчасць перакладчыка зрабілася неад'емнай часткай духоўнага жыцця Генадзя Рымскага.

Паэзія акрыляла яго навуковыя пошукі. Паэзія несумненна. Як несумненна і тое, што характар навукоўца забяспечваў яго паэтычнаму захапленню грунтоўнае пастаянства. Генадзь Рымскі быў цвёрда перакананы, што беларуская паэзія, паводле зямному непасрэдна-чалавечая, мае сусветны ўзровень. І гэтым кіраваўся ў перакладчыцкай творчасці. З нічога — нічога і не ўзнікае, — Генадзь Рымскі спавядаў гэты прынцып і не памыляўся: беларуская паэзія давала яму магутны эмацыянальны зарад, які дапамагаў мабілізаваць духоўныя сілы для навуковых здзяйсненняў. Гэта было не распыленне інтэлектуальнай энергіі, а шлях да яе канцэнтрацыі. Дзейнасць Генадзя Рымскага як бы ўвасабляла ў канкрэтнай праяве словы Максіма Багдановіча: "добра быць коласам; але шчасліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?..."

На перасячэнні гэтых ліній каардынат, скажам так, і сышліся душэўныя памкненні Генадзя Рымскага з эстэтычным крэда Максіма Багдановіча. І таму, пэўна, каб выверыць перакладчыцкую практыку Генадзя Рымскага, ёсць самы непасрэдны сэнс паглядзець, як пачувае сябе пад яго пяром паэзія Максіма Багдановіча.

Але перад гэтым — яшчэ адна "здагадка": усё, што перакладалася Генадзем Рымскім, мела для яго найперш пэўную і пільную асабістую патрэбу, той — для вяртання з матэматычных абстракцый да трапяткіх жыццёвых рэалій і радасцяў — канкрэтны сэнс. Бо інакш чаму тады ў многіх выпадках ён грунтуе свае перакладчыцкія сімпатыі на песенным паэтычным слове: "Явар і каліна" (Янка Купала), "Раманс. — Зорка Венера ўзышла над зямлёю..." (Максім Багдановіч), "Малітва. — Магутны Божа!.." (Наталля Арсеннева), "Лясная песня. — Ой бярозы да сосны..." (Адам Русак), "Александрына" (Пятрусь Броўка), "Бывай..." (Аркадзь Куляшоў), "Жураўлі на Палессе ляцяць" (Алесь Ставер), "Ты мне вясною прыснілася" (Міхась Шушкевіч), "Вы шуміце, бярозы" (Ніл Гілевіч) і г.д... — перакладаючы, Генадзь Рымскі як бы прыспеўвае, ляціць на крылах песні (згадаем тут, дарэчы, і славутую скрыпку славутага матэматыка Альберта Эйнштэйна, і паэтычныя вопыты знакамітага фізіка Ампера, і... — пералік, пры жаданні, можна працягваць...) Перакладаючы паэзію, Генадзь Рымскі як бы "душой адпачывае"... Зрэшты, так і наогул яно, пэўна, мусіць быць у перакладчыцкай творчасці: перакладаць па любові, перакладаць тое, што суладна гучыць з тваімі думкамі і настроямі, б'ецца ў рытме твайго сэрца... І прамаўляць тут слова трэба, як сваё, але не навязвацца аўтару, а помніць, што ты ўжо як бы не ты, а напалову ён. Ён, аўтар, павінен весці цябе, падказваць дарогу, заспеўваць мелодыю...

Відаць, гэткім жа чынам быў пакліканы Генадзь Рымскі і багдановічаўскай "Веранікай", — і зноў жа, заўважым: перакладаецца не ўсё вершаванае апавяданне, а толькі фінал ягоны (той "пастскрыптум" — "Ізноў пабачыў я сялібы..."), пакладзены на музыку Ігарам Лучанком і акрылены "Песнярамі"...

Давайце ж прачытаем:

*Увидел вновь края родные,*
*Где годы первые прошли:*
*Там стены мхом уж поросли,*
*На стеклах — радуги чудные.*
*И все в пыли. Так стало мне*
*Печально, грустно в тишине.*
*Я в сад пошел... Все глухо, дико,*
*И все травою заросло.*
*Что было раньше, то прошло,*
*И только росчерк "Вероника"*
*На липе, врезанный в коре,*
*Мне говорил о той поре.*
*Расти же, наливайся, древо,*
*Как монумент живой вставай*
*И к небу надпись поднимай.*
*Извечна истина напева:*
*Чем дальше даль уходит дней,*
*Тем имя милое родней.*

Вось так — Багдановіч па-Рымскаму: пераклад — у шэрагу іншамоўных прачытанняў паэта — дастойны. Чытачу, які не ведае арыгінала, які душою не зросся з кожным яго словам, рускамоўны пераказ даносіць сэнс багдановічаўскага тэксту. А вось дыханне... (тут ужо, дзеля справядлівасці скажам, пачынаюцца вечныя "пакуты" і "прычэпкі" да перакладу тых, хто мае магчымасць чытаць арыгінал...) — скажам, тыя ж "сялібы" — "камень спатыкнення" для любога перакладчыка... Браніслаў Спрыньчан, да прыкладу, скарыстаўся аднакарэнным, але, здаецца, неадэкватным — "селенье" ("Ізноў пабачыў я сялібы" — "Я вновь увидел то селенье"). А Генадзь Рымскі, наогул, "абышоў" гэты "камень", "абмінуў": "Увидел вновь края родные", — не "спатыкнуўся", утапіўшы ў "агульным" такое — на вагу золата — канкрэтнае, трапяткое слоўца... Як да мяне, то я "адважыўся б" пакінуць яго "жывым", — чым кепска: "Я вновь увидел те селибы..."? Не трэба ў такіх выпадках баяцца парушыць "рускамоўную стэрыльнасць": коранем сваім слова сэнсава даступнае, зразумелае, а дадаткова — якім дыяментам ззяе яно!.. Як вакол сябе гуртуе фразу, не проста аздабляе, а ствараe паэтычны вобраз.

А вось: багдановічаўскаму "Няма таго, што раньш было" перакладны адпаведнік, здаецца, знойдзены ўдала: "Что было раньше, то прошло..."

Дзесяці паўкроку да мэты — "Чым болі сходзіць дзён, начэй..." — не хапіла перакладному радку "Чем дальше даль уходит дней..." Варта было б замест "уходит" сказаць "ушедших" — і ўсё загучала б натуральна, і знікла б гэтая коснаязыкая інверсія... Радок стаў бы — хоць стаўляй у рад класічных: "Чем дальше даль ушедших дней..." (Але гэта ўжо, як кажуць, на тэму "Калі б я быў рэдактарам"...)

*(Заканчэнне на стар. 14)*

ПЕРАКЛАДЫ

# Палітык і паэт

***Радаван Караджыч (1945 г. н.) большасці з нас вядомы як палітычны лідэр баснійскіх сербаў, былы прэзідэнт Рэспублікі Сербскай. Ён жа, мае высокі аўтарытэт як доктар медыцыны, а таксама як паэт, аўтар кніг "Бяздумнае кап'ё", "Ёсць цуды — няма цудаў", "Спакон вякоў", "Чорная казка", "Славянскі госць" і інш. Каб адрэкамендаваць Караджыча-паэта, прапаноўваем невялічкую нізку вершаў і слова яго сябра, калегі, а таксама і сябра Беларусі Моміра Лазіча (з кнігі "Трыццаць адзін партрэт")***

***Згадваецца, як Р. Караджычу прысудзілі прэмію за кнігу для дзяцей "Ёсць цуды — няма цудаў". Гэта была прэмія імя Бранка Чопіча, за найлепшую дзіцячую кнігу, і ўручалі яе на літаратурным фестывалі "Сцежкамі дзяцінства".***

***Малады, з буйнымі непакорлівымі валасамі і задуменнымі вачыма, стаяў ён паміж мною і Ранкам Паўлавічам, аглядаючы Казару — як быццам, на вядомай пакутніцтвам гары рабіў агляд усіх яе ран, якія не паспелі яшчэ зажыць.***

***І тады, здавалася, у душы яго распускаліся ўсе кветкі той гордай гары. Ён, пэўна, праз горную квецень адчуваў прагу волі, жыццёвую моц і тую невымерную любоў, што атрымлівае, каб аддаваць, кожны чалавек.***

***У сваім вершы "Кветцы", са зборніка "Славянскі госць", ён кажа:***

*Забыўся на цябе ранак.*
*Пайшоў на паляванне.*
*Але не чуваць стрэлаў.*
*Недзе яго сустрэлі*
*Адзіныя вочы і грудзі.*
*Ды вось,*
*Цябе маё дыханне*
*Будзіць.*

***Доктар Радаван Караджыч умее размаўляць з прыродай, знаходзячы ў ёй сугучнасць сваёй душы. Далікатна, нібы матылёк, ён судакранаецца з некранутым у прыродзе, каб пацвердзіць чалавека ў сабе. Той, хто набывае здольнасць паразумецца з прыродай, становіцца больш, чым звычайна, чалавекам. А паміж чалавекам і кветкай розніца — толькі ўпартасць жыцця. Хто больш упарты — чалавек ці кветка? У чалавека жыццё больш працяглае, і яму дадзена трывалая душа, каб зносіць ліха, з якім на працягу жыцця сутыкаецца. Ліха якраз дапамагае доктару Радавану Караджычу разумець людзей і прыроду, асэнсоўваць і ацэньваць усё тое, што азначаецца простым словам ЖЫЦЦЁ. Вось у чым, бадай, моц паэтычнага слова гэтага няўрымснага і мудрага лірыка, здольнага прыслухоўвацца да жыцця прыроды і чалавека.***

Радаван КАРАДЖЫЧ

### Смерць бацькі

*Заціхла раптам*
*Перапоўненае жахам сэрца,*
*І ўжо нішто*
*Ранейшым быць не можа*
*Перайначана ўсё*
*Ці перайначваецца,*
*Не трывае,*
*Калі Божае слова забываецца.*
*Маўчыць век. Ад ветру*
*Застаўся на вуснах след.*
*Дзесяцігоддзе змоўкла,*
*А ў ім дні, гадзіны.*
*Маўчаць і вежы — ці то позна,*
*Ці то рана?*
*Маўчаць хвіліны.*
*Сонца, ты — кат,*
*пярэварацень-груган!*
*Погляд муціцца*
*І падае неба зорнае.*
*Знямелыя,*
*Пераглядаюцца звяры*
*І віно ў ягадзе вадзянее,*
*Калі згубілася Божае слова.*

### На вяршыні Дурмітора

*Узыходжу, хоць сэрца стыне,*
*На бацькаўшчыны вяршыню,*
*Іду па запавет*
*На скалу славы.*

*Проста ў неба дарога*
*Адсюль застаецца,*
*Крутая і адзіная, здаецца:*
*Злева — суровая глыба,*
*Справа — стромы абрыў,*
*Проста ж перада мною —*
*Бог.*
*Загараюцца вочы*
*Ад поўнага шчасця,*
*І нічога больш не хочацца,*
*І няма куды больш,*
*Як проста ў блакіт, поўны*
*Светлай тугі народнай.*

*Побач кветка пахучая —*
*Дар, сіла якога*
*Іржу з душы здымае.*
*Тут пра месца Бога*
*Чутае ў маленстве ўспамінаецца.*

*Але, чаго па гэтых стромах*
*Дзевяць стагоддзяў, а то і больш,*
*Я імкнуся, нібы*
*вяроўчына, цягнуся,*
*Да неба?*

*Няхай Божы намер здзейсніцца!*
*А мне патрэбна было вырвацца*
*З клеткі маўчання, рогі вастрыць*
*Аб зіхоткую цвердзь нябесную.*
*Велічыню складаць з кавалкаў.*
*Каб дайсці нарэшце*
*Да піку самога, стаць на ім.*
*Агледзець і ўпэўніцца:*
*Бацька гэта*
*Ці айчым?*

### Двайнік

*Цябе каля храма чакаю.*
*Старыя званы не азываюцца.*
*Кроплі дажджу б'юць па маёй цішыні.*

*А тут жабрак праходзіць*
*Нібы з Леты вяртаецца.*
*Не дзіця і не дарослы,*
*ды на мяне падобны.*

*У мяне ж у кішэнях,*
*Як назло, анічога,*
*Што б даць было можна.*
*Толькі той, якім вершы пішу, аловак.*

*Але і той прапаў недзе.*
*Ён, у задуменні, прайшоў міма.*
*На мяне вельмі падобны.*

*Пайсці б за ім.*
*Тым часам дождж заліў*
*Вочы мне.*
*І спакой наклаўся*
*На мой змрок*
*Такі, як накрыўка на труне.*

**Пераклад Івана ЧАРОТЫ**



## Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

### Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

*кафедра струнных народных інструментаў*
прафесар — 1;
*кафедра харавога дырыжыравання*
загадчык кафедры — 1;
*кафедра фартэпіяна*
загадчык кафедры — 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.
Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.
Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.

Міхась МІРАНОВІЧ

## Фрашкі

### Шкоднасць добрых манер

*Вось што манеры вашы,*
*Хлопцы, нарабілі!*
*Патрэбна, каб аб гэтым*
*Моладзь добра помніла:*
*Жанчыне месца*
*У трамваі уступілі —*
*Ад нечаканасці*
*Кабета знепрытомнела.*

### Доўгі рубель

*Спытаўся дзед:*
*— Скажыце*
*мне, рабяты,*
*Які рубель у вас*
*Даўгім завуць?*
*— А той, што ад авансу*
*Да зарплаты*
*Табе ўдаецца неяк*
*Расцягнуць.*

### Па медсёстрах

*У Васіля*
*Няўзнак з'явіўся*
*страх —*
*Пытанне пра здароўе*
*Стала востра.*
*І зараз ходзіць ён*
*Па дактарах.*
*...А маладым —*
*Больш бегаў*
*па медсёстрах.*

# Выдумляльшчык

— Я хоць роду мужыцкага, хоць семя маё, як кажуць, на гнаі прарасло, а паняцце маю пытляванае. Не ведаю, якое яно было, колішняе дваранства, а сялянства маіх продкаў — караністае і ўчарэпістае, прышчэпленае да адвечнай кемлівасці...

Дзед Кузьма зрабіў глыбокую зацяжку, выпусціў праз нос дым і важна абвёў поглядам прысутных.

Прысутныя, старыя бабы-адзіноты, аднагодкі Кузьмы, сядзелі на лаўцы пад векавой ліпай абапал апошняга ў вёсцы дзеда і пагаджаліся з ім, думаючы пры гэтым кожная аб сваім.

— Так... так... вядома... А як жа...

Кузьма зноў зацягнуўся і працягваў: — Я ў сваім жыцці памыліўся толькі адзін раз, акрамя таго, што ажаніўся. Пасеяў тытунь не ў добрую пару. Трэба было пад поўню, а я ткнуў яго ў зямлю на сход маладзіка і вымушаны быў курыць яго, нібыта траву — ні табе моцы, ні смаку... Ды і то гэта было дзесяткаў шэсць гадоў ад майго дваццацігоддзя...

Дзед зноў зацягнуўся і смачна крактануў: — А гэты вочы выядае да патыліцы, прадзірае нутранку да пятаў. Забыўся, як камары выглядаюць — дохнуць за вярсту ад мяне...

Старыя бабы пагаджаліся: — Так...так... вядома... А як жа...

— Мая нябожчыца Параска, — дзед перахрысціўся, — царства ёй паднябеснае, казала: — Ты, Кузьма, перажывеш мяне бо твая галава нічым не перагружана... Яна, мая ластаўка, мела на ўвазе тое, што, акрамя розуму, нічога лішняга Бог у маю галаву не паклаў...

— Так... так... вядома... А як жа... — чулася з двух бакоў.

— Учора, — дзед пусціў дым з носа, — злавіў у Кабаковым віры шчупака. Вочы — па яблыку, клыкі — як у тваёй, Стэфка, сучкі. Валтузіў мяне паўдня, ледзь рукі не павыкарчоўваў, сцярвец...

Дзед ляснуў даланёй па лысіне: — Камары разляталіся! — зацягнуўся і працягваў: — Дык вось шчупак... Распароў я яму пуза і войкнуў: цалюхенькі гусак сядзіць у кішцэ. Цалюхенькі, як ёсць, толькі пер'е паабслізла. Абмыў я яго, прысаліў і, як ёсць, у печ да агню. Такая смаката — не мог ад'есціся. Праўда, крыху цінай аддаваў... А шчупака я пасаліў у кубёлку і ў склеп — на зіму паставіў...

Бабы, хоць ведалі, што Кузьма ніколі не займаўся рыбалкай, але ківалі галовамі: — Так... так... вядома... А як жа...

Дзеду, папраўдзе кажучы, абрыдла штодзённая лагоднасць баб, хацелася здзіўлення, пытанняў, зацікаўленасці. Нават ката, калі яго штодня гладзіць ад галавы да хваста, заванітуе ад салодзенькай пяшчотнасці, яму калі-нікалі трэба і валасы дыба, каб аж блохі пырснулі ва ўсе бакі.

Дзед скасавурыўся на слухачак — ніякіх эмоцый. Можа б, ім расказаць, што знайшоў у лесе калоду пчол і мёду напампаваў цэлую кадушку? Не! Наўрад ці іх гэта закране, будуць такаць ды пагаджацца. Порхаўкі старыя!

У Кузьмы ад такіх думак нават цыгарка патухла...

"Ха-а!" — весела падумаў ён, ад чаго з цыгаркі зноў пайшоў дым. "Я вас прапяку наскрозь, чортава семя!"

— Э-хе-хе, — абыякава выдыхнуў ён. — Што я ўсё пра тытунь ды пра шчупака? Зусім забыўся...

Кузьма загадкава цмокнуў языком і замоўк, старыя пераглянуліся.

— А што, што? — узвілася адна з кабецін.

Кузьма моўчкі зацягваўся і выпускаў дым праз нос...

— Кузьма, ну што?! — ледзь не ў адзін голас загаманілі бабы.

Кузьма таямніча прыклаў пажаўцелы палец да сівых вусоў: — Толькі ж глядзіце — нікому! — і зноў нетаропка зацягнуўся.

— Ну што? Ну што? Хутчэй! — перабівалі адна адну бабы.

— Жанюся! — секануў Кузьма.

— Во-о-ой! — цяпер ужо ў адзін голас усклікнулі жанкі. — Здурнеў! З кім! Брахун! Няўжо? А хто яна? Хто?!

Кузьма за свой доўгі век добра вывучыў жаночы характар, таму сцяміў, што патрапіў у самы яблычак. Ён устаў з лаўкі і зноў жа абыякава сказаў: — Яшчэ не вырашыў... Ну, бывайце, ластаўкі! — і падаўся хісткай хадой да сваёй, гэткай жа, як і сам, старой хаты. Дзед плячамі адчуваў зацікаўленасць "ластавак" да сваёй асобы і гэта надавала сілы.

**Сяргей ДАВІДОВІЧ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19





**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556
Нумар падпісаны ў друк 8.11.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6537

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12